ЛАБІРЫНТ



№18, сакавік 2012

*Студэнцкая гістарычная суполка “Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага”*

## ПАЛІТЫЧНАЕ АФАРМЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ



У канцы 80-х гг. актывізавалася грамадска-палітычнае жыццё на Беларусі, звязанае з дзейнасцю народнікаў, развіццём беларускай літаратуры.

Гэта абумовіла паскарэнне працэсу фарміравання беларускай нацыі і росту нацыянальнай самасвядомасці, з'яўлення новага пакалення беларускай інтэлігенцыі, якая стала рухаючай сілай беларускага нацыянальнага адраджэння, яго культурна-асветніцкага напрамку. Нацыянальна-вызваленчы рух беларускага народа, як і іншых народаў дарэвалюцыйнай Расіі, – з’ява хоць і супярэчлівая, але цалкам заканамерная, абумоўленая сацыяльна-палітычнымі і гісторыка культурнымі прычынамі. Беларускі рух узнік на гістарычнай арэне як адлюстраванне і неад’емная частка аб’ектыўнага працэссу складвання беларускй нацыі, што адбываўся ў вельмі неспрыяльных умовах паліцэйска-чыноўніцкага рэжыму самадзяржаўнай Расіі. Маладая беларуская інтэлігенцыя, якая інтэнсіўна фарміравалася на пачатку XX стагоддзя, востра ўспрымала нераўнапраўе беларусаў у галіне культуры, мовы, асветы. Яна шчыра імкнулася дапамагчы свайму народу сцвярдзіць яго права на самастойнае развіццё, стаць гаспадаром свайго лёсу. У 1902 г. у Пецярбургу ствараецца «Гурток беларуская народнай культуры і асветы». У 1901-1902 навучальным годзе, як адзначае А.Тогулева, студэнцкі гурток быў ужо настолькі вялікі, што на яго падставе было вырашана стварыць нелегальную арганізацыю – Беларускую рэвалюцыйную партыю ( БРП ). Вясной 1903 г. кіраўніцтва БРП раскалолася. “Паланафілы” стварылі гурток “Круг беларускае народнае прасветы і культуры”, а браты Луцкевічы пачалі ствараць новую арганізацыю – Беларускую рэвалюцыйную грамаду. Згодна з А.Тогулевай, у лістападзе 1903 г. ў Вільні адбыўся першы з’езд БРГ, на якім была прынята праграма партыі. Яна дэкларавала БРГ у якасці сацыяльна-палітычнай арганізацыі беларускага працоўнага народа. Сваёй мэтай партыя абвяшчала знішчэнне капіталістычнага ладу і пераход да грамадскай уласнасці на зямлю, прылады працы і вытворчасці. Бліжэйшаю мэтаю БРГ аб’яўлялася звяржэнне расійскага самажзяржаўя ва ўзаемадзеянні «з пралетарыятам усіх народаў Расійскай дзяржавы”. Па нацыянальнаму пытанню БРГ выступала за «як мага большую незалежнасць нацыянальнасцей» і аўтаномію для Заходняга краю з сеймам у Вільні.

# Алесь Гарун

## Ты, мой брат, каго зваць беларусам

11 сакавіка споўнілася 125 гадоў ад нараджэння паэта.

Палітык, паэт, публіцыст, аўтар «Нашай Нівы» Алесь Гарун пражыў зусім кароткае жыццё. Дзевяць з трыццаці трох адведзеных яму лёсам гадоў жыцця ён адбыў на царскай катарзе за палітычную дзейнасць.

Але даробак у літаратуры, роля ў станаўленні незалежнай беларускай дзяржавы дазваляе паставіць яго ў адзін шэраг з выбітнымі сучаснікамі.



**На чатырохгоддзе «Нашай Нівы»**

Ты, мой брат, каго зваць беларусам,
Роднай мовы сваёй не цурайся;
Як не зрокся яе пад прымусам,
Так і вольны цяпер не зракайся.

Ад дзядоў і ад прадзедаў, браце,
Гэта скарб нам адзін захаваўся,
У сялянскай аграбленай хаце
Толькі ён незабраны астаўся.

Ў старыну беларус, не надданы,
Гаспадарыў, быў сам над сабою
І далёка у свеце быў знаны
За літоўскай і ляшскай зямлёю.

Але час прамінуў, і нядоля
На народ, як бы камень, звалілась,
Беларуская слава і воля
Адышла, адцвіла, закацілась.

Не змяняючы шэрай апраткі,
Працаваў ты, як вол, гаратліва,
А у хаце тваёй недастаткі,
А на ніве тваёй неўрадліва.

А чаму? Ты не здольны, ці хворы,
Ці благі гаспадар, ці п’яніца?
Мусіць, не! Бо і іншым у пору
У цябе гаспадарыць наўчыцца.

Светлы розум твой, брат, але дзетак
Ад цябе, як і ўсё, адбіралі
І на бацькаўскі родны палетак
Працаваць-памагаць не пушчалі.

Хто хацеў, той і смеў рабаваці,
Без прыпросу з’язджаліся госці —
Абдзіраць, аб’ядаць, апіваці
І крышыць гаспадарскія косці.

Можа б, ты і памёр і загінуў,
Каб не вешчая мова Баяна.
Хто ж быў добры, яе хоць пакінуў?
Як жа так, што яшчэ не забрана?

Бо што бачылі госцікі-герцы —
І зямлю, і лясы, і кілімы, —
Ўсё забралі. А мову у сэрцы,
Ў сваім сэрцы хавалі-няслі мы.

Дык шануй, беларус, сваю мову —
Гэта скарб нам на вечныя годы;
За пашану радзімаму слову
Ушануюць нас брацця-народы!



# «Беларускі гістарычны агляд» Том 17. Снежань 2010

Наўрад ці «Беларускі гістарычны агляд» патрабуе адмысловай прэзентацыі. Часопіс выходзіць з 1994 года і ўжо даўно заслужыў вельмі станоўчую рэпутацыю як адно з лепшых (а можа і найлепшае) гістарычнае выданне ў нашай краіне. Застаецца толькі здзіўляцца ўпартасці Генадзя Сагановіча, які цягне за сабою «БГА» на працягу 17 год.




Зараз у руках я трымаю том 17, датаваны снежнем 2010 года, хоць насамрэч ён выйшаў увесну 2011 г. Але галоўная тут усё ж сімвалічная прывязка да 2010 года, які ўсім запомніўся маштабнымі святкаваннямі 600-годдзя перамогі пад Грунвальдам. А паколькі менавіта Генадзь Сагановіч апошнім часам актыўна займаецца «Вялікай Вайной» паміж Тэўтонскім ордэнам і саюзнымі польска-літоўскімі войскамі, пра што сведчаць яго апошнія публікацыі, то няма нічога дзіўнага, што юбілей гэтай падзеі стаў цэнтральнай тэмай прадстаўленага тому.

«Грунвальдскі» блок разгляданага часопісу прэзентуе досыць скептычны погляд на пераўтварэнне гістарычнай падзеі ў ключавое «месца памяці» не толькі (і не столькі) беларусаў, але і многіх суседніх народаў. Шведска-нямецкі гісторык Свен Экдаль у сваім артыкуле дае магчымасць азнаёміцца са зменена й перспектывай успрыняцця бітвы, бо дае агляд сітуацыі ў Тэўтонскім ордэне напярэдадні бітвы і катастрафічных наступстваў паразы для рыцарскага ордэну. Цікава, што пры гэтым пазначаюцца і тыя хібы ўсталяванай гістарыяграфічнай рэканструкцыі бітвы, якія даўно ігнаруюцца: напрыклад, той момант, што да гэтага часу дакладна не лакалізавана само месца падзеі.

У нейкім сэнсе працягвае гэтую перспектыву яшчэ адзін нямецкі даследчык Уда Арнольд. Праўда, яго артыкул канцэнтруецца пераважна на тым, як успрымалася бітва пад Танэнбергам / Грунвальдам у апошнія два стагоддзі ў Польшчы і Нямеччыне. З тых часоў, як Прусія пачала актыўна сімвалічна выкарыстоўваць ордэнскую спадчыну пасля выгнання Напалеона (калі сам існы яшчэ ордэн быў цалкам пазбаўлены нават прэтэнзіяў на прускія землі), пачынаецца актыўная палітычная эксплуатацыя гэтага мінулага - як Прускай дзяржавай, так і палякамі. Сама ж бітва пад Танэнбергам для прускага ўслаўлення ордэнскага мінулага была нязручнай тэмай, і Уда Арнольд дэманструе самыя розныя стратэгіі прыўлашчання гэтай падзеі. Для палякаў жа бітва пад Грунвальдам на стагоддзі сталася сімвалам пераможнага духу над немцамі, з якімі цягнуліся цяжкія і крывавыя канфлікты. І толькі апошнім часам гэта падзея ператварылася, па словах Арнольда, у «своеасаблівую фальклорна-відовішчную з'яву».

Далейшы артыкул польскага даследчыка Славаміра Юзвяка прэзэнтуе ўжо досыць стандартны гістарыяграфічны падыход і канцэнтруецца на лёсе ваеннапалонных Нямецкага ордэна пасля бітвы пад Карановам 1410 г. (гэтая бітва застаецца практычна ў цені славутай перамогі). Але ўжо закранутую праблематыку сучаснага выкарыстання мінулага для палітычных патрэбаў працягвае Генадзь Сагановіч, які прысвяціў свой новы артыкул сімвалізацыі Грунвальда ў беларускім гістарычным наратыве.

Цікава, што для пачынальнікаў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі (В. Ластоўскі, М. Доўнар-Запольскі, У. Ігнатоўскі) гэта была досыць маргінальная падзея, і толькі палітычная кан'юнктура пазнейшага часу, звязаная з уваскрашэннем панславісцкіх ідэяў і запатрабаваннем на антыгерманскую рыторыку, прывялі да паступовага пашырэння цікавасці да перамогі пад Грунвальдам і да далейшай палітычнай маніпуляцыі гэтай падзеяй. Пры гэтым і ў незалежнай Беларусі ацэнкі Грунвальдскай бітвы шмат у чым успадкоўваюць тыя схемы інтэрпрэтацыі, якія былі распрацаваныя ў савецкія часы - з

панславісцкай рыторыкай і адлюстраваннем адвечнай агрэсіі немцаў на Ўсход.

Пасля гэтага тэматычнага блоку можна азнаёміцца з расшыфроўкай публічнай лекцыі, якую прачытаў у Менску 19 траўня 2010 г. славуты (і зараз надзвычай папулярны не толькі ў акадэмічным асяродку) амерыканскі гісторык Тымаці Снайдэр. У прынцыпе, гэтую лекцыю можна палічыць запрашэннем да прачытання кнігі Снайдэра «Рэканструкцыя нацый», якая была выдадзеная БГА ў мінулым годзе ў перакладзе на беларускую мову. Сам Снайдэр нічога надзвычайнага ў сваёй лекцыі не прамаўляе, але падкрэслівае тыя істотныя моманты (напрыклад, наўпроставы ўплыў імперскай палітыкі на нацыяфарміраванне), якія яшчэ пакуль чакаюць падрабязнай распрацоўкі з боку беларускіх гісторыкаў.

У нейкай ступені з гэтай задачай пераклікаецца наступны артыкул Галіны Туміловіч, дзе разбіраецца палітыка Расійскай імперыі адносна шляхецкага саслоўя ў перыяд 1795 - 1863 гг. Пры гэтым даследчыца найбольш цікавіцца лёсам дробнай шляхты, якая была сапраўднай «косткай у горле» для імперскіх уладаў - адкуль і паўстаюць разнастайныя спробы «разбораў» шляхты. Вельмі цікавы матэрыял прэзэнтуе Алена Маркава, якая даследавала падручнікі БССР 1920-х гг. (у першую чаргу па гісторыі і геаграфіі), і на гэтай падставе прааналізавала тую новую мадэль беларускай ідэнтычнасці, якая ўзнікала на скрыжаванні нацыяналістычнага і сацыялістычнага светапогляду.

У падручніках 1920-х гг., на погляд даследчыцы, закладваўся падмурак для новай нацыянальнай ідэнтычнасці, дзе важным складнікам было супрацьпастаўленне іншым, якія персаніфікаваліся пераважна як рускія. Гэты артыкул падкрэслівае значнасць дадзенага перыяду для фармавання беларускай нацыі, што часам застаецца незаўважаным.

Агульныя праблемы функцыянавання і развіцця беларускай гістарыяграфіі закранаюцца ў анкетным апытанні БГА сярод беларускіх гісторыкаў.

Тут, канешне, можна заўважыць відавочную пераемнасць з форумам у №12 (2007) часопіса «Україна Модерна», дзе таксама абмяркоўваліся стандарты айчыннай гістарычнай навукі з яўным прыцэлам у бок ВАК. Але закранутыя ў анкетаванні балючыя пытанні паказваюць, што стан беларускай гістарыяграфіі (хоць і значна лепшы ў параўнанні з сацыяльнымі навукамі) патрабуе інавацыйных зменаў, праўда, надзейных рэцэптаў для паляпшэння стану ніхто пакуль прапанаваць не можа.

Відавочна, што ліквідацыя ненавіснага ВАКу не прынясе ніякай карысці, калі толькі не будзе прапанавана працэдура замены яго на больш якасны і надзейны альтэрнатыўны інстытут.

Як заўсёды, «Беларускі гістарычны агляд» вылучаецца значным блокам рэцэнзій, закрываючы тым самым велізарную дзірку з рэцэнзаваннем, якая існуе ў беларускай афіцыйнай гістарыяграфіі, дзе напісанне рэцэнзіі - гэта рэдкі і выключна дэкаратыўны акт.

Сярод блоку рэцэнзій варта адзначыць разгорнутую і досыць эмацыйную рэцэнзію Уладзіміра Бажанава на «Параўнальную паліталогію» Уладзіміра Роўды. Таксама сярод разгледжаных кніг асаблівую ўвагу прыцягвае грунтоўная манаграфія польскай даследчыцы Дароты Міхалюк пра Беларускую Народную Рэспубліку.

З гэтага нумару ў часопісе адкрываецца і новая рубрыка, дзе анатуюцца артыкулы на гістарычныя тэмы ў розных беларускіх навуковых выданнях, што дае выдатную магчымасць адсочваць гістарычныя публікацыі. Працу аглядальніка Яўгена Глінскага відавочна палягчае скарачэнне колькасці профільных часопісаў, якое адбылося ў параўнанні з 1990-мі гадамі, пра што ўсім іншым даводзіцца толькі шкадаваць. Але праца зроблена сапраўды грунтоўна, і будзем спадзявацца, што гэтая ініцыятыва будзе працягнутая.

Закончваецца 17 том на крыху сумнай ноце - некралогамі ў гонар выбітных гісторыкаў: Юліуша Бардаха, Уладзіміра Ісаенка і Павела Лойкі. На вялікі жаль, і 2011 год стаў не лепшым - гэтым летам адыйшло ў той свет таксама шмат слаўных людзей, у тым ліку і маладых, якія маглі б яшчэ шмат плённа працаваць.

Але жыццё наша працягваецца, і будзем спадзявацца, што яно і надалей будзе суправаджацца свежымі тамамі «Беларускага гістарычнага агляду».

**Артыкул:** ***Аляксея Ластоўскага, palityka.org.***

## Праблема статусу Інфлянтаў у дачыненнях палітычных элітаў ВКЛ і Польшчы (1582-1586 гг.)

Паводле пастановы Люблінскага сойма 1569 г. Інфлянты (Лівонія, гістарычная назва зямель сучасных Латвіі і Эстоніі) пераходзілі ў агульнае падпарадкаванне Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ) і Каралеўства Польскага, як частак ужо адзінай Рэчы Паспалітай. Далейшае вызначэнне статусу правінцыі адкладалася на наступны вальны сойм. Аднак два апошнія соймы ў час панавання караля польскага і вялікага князя літоўскага Жыгімонта Аўгуста - 1570 і 1572 гг. - гэтага пытання так і не вырашылі. Акрамя таго, паводле ўмоў перамір'я 1570 г., заключанага паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай, значная частка Інфлянтаў заставалася пад кантролем апошняй [2]. У выніку паходаў 1575-1577 гг. амаль усе Інфлянты па правым беразе Дзвіны былі захоплены маскоўскімі войскамі [3].




Толькі пасля ўдалых ваенных кампаній 1579-1581 гг. правінцыя была вызвалена войскамі караля і вялікага князя Стэфана Баторыя. Згодна падпісанага 15 студзеня 1582 г. Ям-Запольскага перамір'я, усе Інфлянты, землі паўночна-ўсходняй Беларусі разам з Полацкам і Азярышчам, а таксама Усвят і Веліж, вярталіся ў склад Рэчы Паспалітай. Разам з тым, за адмову вялікага князя маскоўскага Івана IV ад усялякіх прэтэнзій на Інфлянты і Курляндыю, Маскоўскай дзяржаве былі аддадзены заваяваныя раней Вялікія Лукі, Невель, Завалочча і інш. [4] Заўважым, што гэтыя землі, калі б засталіся пад уладай Рэчы Паспалітай, мелі належаць Вялікаму Княству Літоўскаму. Пасля заканчэння вайны перад палітычнымі элітамі ВКЛ і Польшчы зноў паўставала пытанне канчатковага вызначэння статусу Інфлянтаў у складзе супольнай дзяржавы.

Разнастайныя аспекты Інфлянцкай вайны даволі грунтоўна вывучаліся польскай і расійскай гістарыяграфіяй. Свае напрацоўкі ў гэтым пытанні мае і беларуская гістарычная навука. Аднак канфлікт, які разгарэўся ў 1580-я гг. паміж кіроўнымі элітамі ВКЛ і Польшчы за прыналежнасць Інфлянтаў, не быў прадметам асобнага даследавання і зрэдку закранаўся толькі як частка больш шырокіх палітычных працэсаў у рэгіёне. Хаця, дадзены канфлікт надзвычай цікавы з п.гл. адлюстравання ўзаемных стасункаў "палітычных народаў" Вялікага Княства і Каралеўства ў супольнай Рэчы Паспалітай, імкнення літвінаў забяспечыць сабе адметны статус і абараніць свае правы ў складзе новаўтворанай дзяржавы. Разгляд заяўленага пытання ў гэтым артыкуле абмяжуем перыядам ад Ям-Запольскага перамір'я 1582 г. да смерці Стэфана Баторыя ў 1586 г.

Літвіны прынцыпова і паслядоўна дабіваліся далучэння ўсіх Інфлянтаў менавіта да ВКЛ. Яшчэ на сойме 1569 г. у Любліне прадстаўнікі Вялікага Княства, у т.л. жамойцкі староста і земскі маршалак Ян Хадкевіч, тагачасны адміністратар і гетман Інфлянтаў, выступалі за ўваходжанне гэтай правінцыі ў склад ВКЛ [5]. У часы першых двух бескаралеўяў (1572-1576 гг.) літвіны на розных перамовах і з'ездах таксама неаднаразова вылучалі пастулат аб далучэнні правінцыі да Вялікага Княства Літоўскага [6]. Нарэшце, ужо ў часы панавання Стэфана Баторыя, на Галоўным з'ездзе (сойміку) ВКЛ у Ваўкавыску ў ліпені 1577 г., было асабліва падкрэслена, што Інфлянты належаць толькі Вялікаму Княству, і іх адміністратарам, у выпадку магчымай адстаўкі Я. Хадкевіча, мусіць быць толькі літвін.

Пытанне прыналежнасці Інфлянтаў абудзіла гарачыя спрэчкі амаль адразу пасля падпісання перамір'я з Маскоўскай дзяржавай. У сакавіку 1582 г. у Рызе адбылася нарада (канвакацыя) сената Рэчы Паспалітай з удзелам Стэфана Баторыя, асноўнай мэтай якой было менавіта папярэдняе ўладкаванне спрэчнай правінцыі. У

Рыгу прыбыла вельмі прадстаўнічая дэлегацыя сенатараў ВКЛ. На канвакацыі прысутнічалі біскупы віленскі Юры Радзівіл і жамойцкі Мальхер Гедройц, віленскі кашталян і канцлер Астафей Валовіч, трокскі ваявода Стэфан Збаражскі, трокскі кашталян, падканцлер і польны гетман Крыштоф Радзівіл, кашталяны жамойцкі Мікалай Тальваш, полацкі Ян Волмінскі і менскі, земскі падскарбі Ян Глябовіч [8]. Са справаздачай аб сітуацыі ў Інфлянтах выступіў іх фактычны кіраўнік канцлер і вялікі гетман Каралеўства Польскага Ян Замойскі. Яго рэляцыя выклікала значнае незадавальненне палітычнай эліты Вялікага Княства. Сенатары абураліся тым, што амаль усе інфлянцкія замкі, пасля іх вызвалення, апынуліся пад уладай польскіх ротмістраў, за выключэннем некалькіх нязначных, якія атрымалі літвіны [9]. На канвакацыі Я. Глябовіч, які найбольш адкрыта выказваў сваё абурэнне такой сітуацыяй, непасрэдна абвінавачваў палякаў, што тыя "нас прыводзяць да паслухмянасці, калі нас разараюць". Аднак і польскі бок не збіраўся выпускаць Інфлянты з-пад свайго кантролю. Я. Замойскі яшчэ перад заканчэннем вайны выступаў супраць таго, каб правінцыю ўзначаліў літвін. Стэфан Баторый, каб неяк суцішыць незадавальненне з боку ВКЛ, прызначыў выконваць абавязкі адміністратара Інфлянтаў Ю. Радзівіла, але толькі да будучага сойма Рэчы Паспалітай. Яшчэ ў Рызе была створана спецыяльная камісія для падзелу правінцыі, у склад якой увайшлі і палякі, і літвіны, а таксама былі падрыхтаваны "Артыкулы аб захаванні міру", што датычылі Інфлянтаў. Падчас абвяшчэння Стэфанам Баторым "Артыкулаў" адбылася досыць сімвалічная падзея: дакумент быў выдадзены пад пячаткай Польшчы, і А. Валовіч, як канцлер, адмыслова прыклаў побач пячатку Вялікага Княства, такім чынам пацвердзіўшы правы ВКЛ на гэтую правінцыю.

Чарговае сутыкненне літвінаў і палякаў адбылося ў ліпені 1582 г. на канвакацыі ў Гародні, дзе прысутнічала 18 сенатараў Рэчы Паспалітай. Як пісаў Я. Замойскі да Ю. Радзівіла, на нарадзе "не было amarikacye [раздражнення] ні на каго, толькі на палякаў" , але высвятленне адносінаў усё ж вырашылі перанесці на будучы вальны сойм.

Стэфан Баторый у ліпені 1582 г. абвясціў аб скліканні чарговага сойма Рэчы Паспалітай, які меў пачацца ў кастрычніку таго года. Адной з галоўных яго задачаў павінна было стаць абмеркаванне пасляваеннага ўладкавання (ардынацыі) Інфлянтаў. На сойме планавалася падвесці вынікі працы сумеснай польска-літвінскай камісіі, створанай у Рызе, вызначыць адміністрацыйны і судовы лад у правінцыі, абмеркаваць яе гаспадарчую арганізацыю. Неабходнасць як мага хутчэйшага вырашэння "інфлянцкага пытання" набывала надзвычайную актуальнасць у святле прэтэнзій караля Швецыі Ёхана III на шэраг замкаў у Інфлянтах (напр., Нарву, Рэвель, Белы Камень, нават Дэрпт, Пернаў ды Фелін) і правалу польска-шведскіх перамоў на гэты конт у тым жа 1582 г.

Было зразумела, што на сойме паміж прадстаўнікамі ВКЛ і Польшчы зноў разгарнуцца спрэчкі па праблеме прыналежнасці Інфлянтаў. Так, яшчэ ў жніўні 1582 г. Я. Замойскі папярэджваў вялікага маршалка Каралеўства Анджэя Апалінськага, што "трэба таго сцерагчы, каб Літва верху не брала, бо калі пусцім іх да Інфлянтаў - узбагацяцца, будуць нам у цяжар (ды і так сталася). Бо як разабралі ўсё ў Літве, што там кароль найменшага даходу не мае, тое і ў Інфлянтах учыняць, альбо тыя землі абы як страцяць". У гэтых словах відавочна пэўная пагарда да літвінаў, сумненне ў іх здольнасці эфектыўна кіраваць правінцыяй. Разам з тым, прасочваецца і нежаданне палякаў мець канкурэнцыю з боку кіроўных колаў Вялікага Княства ў сацыяльна-палітычным жыцці Рэчы Паспалітай. Ёсць тут і закід магнатэрыі ВКЛ, якая збольшага трымала даменіяльныя ўладанні ў Вялікім Княстве, што тая сваёй дзейнасцю спустошыла земскі і надворны скарб. Такім чынам, напярэдадні сойма палітычная эліта ВКЛ атрымала надзвычай сур'ёзнага суперніка ў асобе Я. Замойскага, аднаго з самых набліжаных да Стэфана Баторыя сенатараў і папулярнага сярод "палітычнага народа" Рэчы Паспалітай дзеяча. Уплыў і аўтарытэт Я. Замойскага сапраўды быў вельмі вялікі. Нават сярод літвінаў. Менавіта да кароннага канцлера і вялікага гетмана звяртаўся ў студзені 1582 г. трокскі падкаморы, ротмістр Багдан Агінскі з просьбай дапамагчы яму атрымаць які-небудзь замак у

Інфлянтах за ўдзел ў вайне з Маскоўскай дзяржавай, а ў сакавіку таго ж года ўжо смаленскі ваявода Філон Кміта-Чарнабыльскі прасіў Я. Замойскага не забывацца на яго заслугі ў Інфлянцкай вайне.

Безумоўна, стаўленне Я. Замойскага да літвінаў падзяляла і значная частка сенатараў ды шляхты Каралеўства. Хаця, былі ў палітычных колах Польшчы і тыя, хто за вырашэнне сваіх матэрыяльных праблемаў гатовы быў згадзіцца аддаць Інфлянты Вялікаму Княству Літоўскаму.

Пасяджэнні сойма распачаліся ў Варшаве 4 кастрычніка 1582 г., а маршалкам пасольскай ізбы быў абраны пісар вялікі ВКЛ Леў Сапега [21]. У Варшаву прыехала 7 сенатараў Вялікага Княства (амаль 30% ад усіх тагачасных сенатараў-літвінаў): А. Валовіч, К. Радзівіл, жамойцкі староста Ян Кішка, Ф. Кміта-Чарнабыльскі, полацкі ваявода Мікалай Дарагастайскі, М. Тальваш і Я. Глябовіч. Такая актыўнасць можа часткова тлумачыцца абвастрэннем адносінаў паміж палітычнымі элітамі Польшчы і ВКЛ вакол вызначэння статусу Інфлянтаў у складзе Рэчы Паспалітай.

Літвіны, сенатары і земскія паслы, разлічвалі на сойме дамагчыся далучэння ўсёй правінцыі да ВКЛ [23]. Аднак пасяджэнні пайшлі зусім у іншым накірунку. Апазіцыйная польская шляхта бачыла ў палітыцы Стэфана Баторыя спробы абмежаваць шляхецкія свабоды і найперш права вольнай элекцыі, пытанне аб Інфлянтах і стасунках Рэчы Паспалітай са Швецыяй фактычна не разглядалася [24]. Спробы Л. Сапегі, як пасольскага маршалка, спыніць бясплённыя спрэчкі і накіраваць працу паслоў у канструктыўнае рэчышча вынікаў так і не прынеслі. Сойм скончыўся 25 лістапада 1582 г., не прыняўшы аніякіх рашэнняў. Не былі прыняты нават канстытуцыі аб Інфлянтах ("Артыкулы"), узгодненыя яшчэ ўвесну ў Рызе. Стэфан Баторый зацвердзіў іх ужо пасля заканчэння вальнага сойма.

Зноў вырашэнне "інфлянцкага пытання" адкладалася да наступнага сойма. Трэба адзначыць, што літвіны свае інтарэсы адстойвалі не толькі галаслоўнымі заявамі. Ім неабходна была і гістарычна-прававая база для абгрунтавання сваіх прэтэнзій на поўнае валоданне Інфлянтамі. Менавіта такі характар мае дакумент, які захаваўся ў Курніцкай бібліятэцы Польскай акадэміі навук (аддзел у Познані), і мае назву " Czo za prawa X. Litewskie ma do ziemie Inflianczki a poliaczi do niei nicz niemai ą" ("Якія правы [Вялікае] Княства Літоўскае мае на зямлю Інфлянцкую, а палякі на яе нічога не маюць") [27]. Па сутнасці, гэта кароткая рукапісная гісторыя Інфлянцкай вайны, напісаная па-польску на 6 аркушах. Твор не датаваны, і невядомы яго аўтар. Аднак можна дакладна сказаць, што быў ён напісаны паміж студзенем 1582 г. і вераснем 1583 г. (у тэксце згадваюцца Ям-Запольскае перамір'е і "цяперашні" смаленскі кашталян Юры Зяновіч, які займаў гэты ўрад з 1579 г. да сваёй смерці 29 верасня 1583 г.) [28]. Хутчэй за ўсё, твор паўстаў у 1582 г., бо ў рукапісе папярэдні дакумент датаваны 31 сакавіка 1582 г. "у Рызе", а наступны - 11 студзеня 1583 г. Выкажам версію, што дадзены дакумент - прамова аднаго з сенатараў ВКЛ на канвакацыі сената, якая адбылася ў Рызе ў сакавіку 1582 г. Што датычыць аўтарства, то безумоўна твор напісаны літвінам, што вынікае з пазіцыі аўтара ў "інфлянцкім пытанні". Таксама адразу кідаюцца ў вочы надзвычай грунтоўныя і, самае галоўнае, дакладныя веды складальніка твора аб ваенных і палітычных падзеях, звязаных з Інфлянцкай вайной. Верагодна, такой падрабязнай, распісанай амаль па кожным годзе, інфармацыяй мог валодаць чалавек, непасрэдна звязаны з канцылярыяй, дзе захоўвалася Метрыка ВКЛ. Нагадаем, у Рызе ў 1582 г. прысутнічалі канцлер А. Валовіч, падканцлер і палявы гетман К. Радзівіл, земскі падскарбі і пісар Я. Глябовіч. Быў у той час у Рызе і пісар ВКЛ Л. Сапега. Аднак пытанне аўтарства дадзенага дакумента застаецца адкрытым.

Апісанне падзей у дакуменце пачыналася з 1556 г. Падрабязна адзначаліся баявыя дзеянні войск Вялікага Княства ў Інфлянтах (з пералікам прозвішчаў ротмістраў) супраць войск Швецыі і Маскоўскай дзяржавы з 1558 па 1581 г., згадваліся разнастайныя перамовы і дамовы паміж ВКЛ, Польшчай і Інфлянтамі, звязаныя з ваеннай дапамогай і прыналежнасцю гэтай правінцыі. Галоўны націск у творы рабіўся на тое, што ВКЛ сваімі сродкамі абараняла Інфлянты, а палякі дапамагаць не хацелі і толькі давалі абяцанні. Зазначалася, што на сойме ВКЛ 1566 г. у Гародні Інфлянты аб'ядналіся з Вялікім Княствам Літоўскім на "вечныя часы", як

"адзіны народ", таму і ва ўмовах уніі з Польшчай, Інфлянты не могуць быць адарваны ад Вялікага Княства. У ваенных кампаніях 1579-1581 гг. літвіны, паводле аўтара, бралі ўдзел не меншы за палякаў. Акрамя таго, польскія жаўнеры абвінавачваліся ў тым, што яны нішчылі і грабілі землі ВКЛ, у якіх мелі пастоі. Аб сітуацыі пасля заключэння перамір'я ў творы выказвалася абурэнне, што ўсе староствы ў Інфлянтах аддадзены палякам, а "літва" з правінцыі выгнана. Тым больш, што літвіны былі вымушаны саступіць Маскоўскай дзяржаве шэраг ужо адваяваных у яе замкаў (Вялікая Лукі, Завалочча ды інш.). Не згаджаўся стваральнік дакумента з ідэяй падзяліць Інфлянты папалам паміж ВКЛ і Польшчай. Адзіным справядлівым выйсцем называлася передача ўсіх Інфлянтаў пад уладу Вялікага Княства. Асабліва адзначалася, што літвінаў, якія згубілі ўсё ў Інфлянтах, проста не будуць паважаць, у т.л. у Маскоўскай дзяржаве, як "нявольнікаў польскіх".

Нягледзячы на ўсе намаганні, літвінам так і не ўдалося ў 1582 г. дасягнуць далучэння спрэчнай правінцыі да ВКЛ. Пачатак 1585 г. прынес ім яшчэ адно расчараванне - Інфлянты ўзначаліў паляк Станіслаў Пенкаслаўскі. Пераадолець апазіцыю кіроўных колаў Польшчы і схіліць на свой бок Стэфана Баторыя літвіны паспрабавалі на новым вальным сойме Рэчы Паспалітай, скліканым на 15 студзеня 1585 г. На яго разгляд зноў выносілася пытанне ўладкавання Інфлянтаў.

Прадстаўніцтва на вальным сойме 1585 г. сенатараў ад ВКЛ было найбольшым за ўсе соймы часоў панавання Стэфана Баторыя. У Варшаве прысутнічала 9 сенатараў-літвінаў (36% ад усіх сенатараў ВКЛ): віленскі ваявода К. Радзівіл, А. Валовіч, трокскі кашталян і земскі падскарбі Я. Глябовіч, Ф. Кміта-Чарнабыльскі, М. Дарагастайскі, менскі кашталян Міхал Гарабурда, земскі маршалак Мікалай Крыштоф Радзівіл Сіротка, падканцлер Л. Сапега і дворны маршалак Альбрыхт Радзівіл.

Унутранае ўладкаванне Інфлянтаў і арганізацыя іх абароны, разам з іншымі справамі, прапаноўвалася разгледзець сенатарам і паслам Рэчы Паспалітай на самым пачатку пасяджэнняў. Канчатковае вызначэнне статусу Інфлянтаў для дэлегацыі ВКЛ было хіба галоўнай задачай. Аднак праца сойма адразу была абцяжарана т.зв. "справай Збароўскіх". Падобна, што да разгляду "інфлянцкага пытання" ў Варшаве прыступілі толькі ў пачатку лютага. Прынамсі, 6 лютага адбылася таемная нарада Стэфана Баторыя і сенатараў, на якой у т.л. абмяркоўвалася і небяспека для Інфлянтаў з боку ўжо не толькі Швецыі, але й Даніі, ды забеспячэнне замкаў у правінцыі. Пазней было вырашана прызначыць пасля сойма камісараў для ўрэгулявання канфлікту Рэчы Паспалітай са Швецыяй.

Што датычыць Інфлянтаў, то 14 лютага 1585 г. для разгляду правоў, вылучаных літвінамі на валоданне правінцыяй, была створана спецыяльная камісія, у склад якой увайшлі як земскія паслы, так і сенатары Вялікага Княства і Каралеўства. На пасяджэнні 20 (або 21) лютага камісія, каб вызначыць прыналежнасць Інфлянтаў, разглядала 17 розных актаў і прывілеяў, якія адносіліся да гісторыі стасункаў гэтай правінцыі з ВКЛ, Польшчай і Свяшчэннай Рымскай імперыяй: ад дамовы паміж Вялікім Княствам і Інфлянтамі 1501 г. да зацвярджэння (канфірмацыі) уніі інфлянцкіх станаў з ВКЛ на сойме ў Гародні ў снежні 1566 г. Відаць, плённых вынікаў пасяджэнне не прынесла, бо 22 лютага земскія паслы ВКЛ звярнуліся да Стэфана Баторыя з просьбай прыняць усё ж рашэнне аб статусе правінцыі. Аднак канчатковы вердыкт кароль і вялікі князь адклаў да супольнага паразумення ўсіх станаў Рэчы Паспалітай . Праз тры дні К. Радзівіл і Я. Глябовіч ад імя сенатараў ВКЛ на падставе пагаднення Вялікага Княства з Інфлянцкім ордэнам 1561 г. і канфірмацыі Жыгімонта Аўгуста (уніі 1566 г.?) даводзілі відавочную, на іх думку, ранейшую інкарпарацыю Інфлянтаў у склад ВКЛ. Стэфан Баторый сваё рашэнне паставіў у залежнасць ад згоды камісіі, складзенай з сенатараў і паслоў, але абмеркаванне зноў было перанесена на наступны дзень. Сенатары-літвіны прасілі яшчэ прызначыць дэпутатаў, якія б ужо на гэтым сойме прынялі канчатковае рашэнне па спрэчнай правінцыі, і яны былі прызначаны. Прынцыповую пазіцыю займалі таксама і паслы ад ваяводстваў ды паветаў ВКЛ. Так, 26 лютага, за два дні да заканчэння сойма, польскія паслы заявілі, што літвіны не жадаюць нічога абмяркоўваць, пакуль не будзе вырашана "інфлянцкая справа", а таму і аб канстытуцыях у пасольскай

ізбе нічога не пастаноўлена. Са свайго боку, прадстаўнікі польскай шляхты таксама не саступалі, трымаліся рашэнняў Люблінскага сойма 1569 г. і настойвалі на падзеле Інфлянтаў паміж ВКЛ і Польшчай .

Пасяджэнне 27 лютага цягнулася да 3-й гадзіны ночы. Пасольская ізба ніяк не магла дамовіцца аб парадку абароны Інфлянтаў. Падобна, што пасы ВКЛ ужо былі схільны да кампрамісу з палякамі: перад каралём і вялікім князем яны заявілі, што маюць права як мінімум на палову правінцыі, якую заслужылі сваімі "выдаткамі і жыццём". З увагі на знешнюю небяспеку, Стэфан Баторый зноў заклікаў паслоў прыйсці да згоды, найперш, у пытанні абароны Інфлянтаў. Тым не менш, на гэтым сойме ніякіх рашэнняў так і не было прынята.

Вальны сойм скончыў сваю працу 28 лютага 1585 г. У развітальнай прамове ад імя земскіх паслоў ВКЛ віленскі войскі Ян Абрамовіч прасіў Стэфана Баторыя ўсё ж дэкляраваць, што Вялікае Княства Літоўскае мае большае права на валоданне Інфлянтамі за Каралеўства Польскае.

Відавочна, літвіны былі расчараваны такімі вынікамі сойма. Усяго праз два тыдні пасля яго заканчэння, 12 сакавіка 1585 г., Л. Сапега даў выйсце сваім эмоцыям: "Вырвана … тая зямля Інфлянцкая ў народа літоўскага, да [абароны] якой Паляк грошам не спрычыніўся на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў, як вайна за Інфлянты пачалася. Толькі зараз, калі [вайна] да заканчэння прыйшла, тады пан Паляк стаў забіраць замкі, якія за нашы [Вялікія] Лукі, Завалочча, Холм і іншыя выгандлеваныя. А мы …, не толькі ўсе скарбы літоўскія, але ўвогуле ўсю зямлю літоўскую дзеля той зямлі Інфлянцкай, баронячы яе, згубіўшы і знішчыўшы, … [Інфлянты] страцілі…" .

Падобна, Стэфан Баторый не хацеў прымаць канчатковага рашэння аб прыналежнасці Інфлянтаў, пакуль самі палітычныя эліты Польшчы і ВКЛ не прыйшлі б да нейкага кампрамісу. Літвінам заставалася чакаць новага вальнага сойма Рэчы Паспалітай, які планавалася склікаць у Варшаве на 2 лютага 1587 г. [50] Аднак сойм гэты не адбыўся, з-за смерці Стэфана Баторыя 12 снежня 1586 г. у Гародні.

Спрэчкі паміж літвінамі і палякамі вакол статусу Інфлянтаў працягваліся і ў гады трэцяга бескаралеўя ў Рэчы Паспалітай (1586-1587 гг.) і ў першы год панавання новага караля і вялікага князя Жыгімонта Вазы. Толькі на вальным сойме 1589 г. былі прынятыя канстытуцыі, якія нарэшце вызначылі, што Інфлянты, згодна з рашэннямі сойма 1569 г. у Любліне, пераходзяць у супольнае падпарадкаванне ВКЛ і Польшчы.

Такім чынам, палітычная эліта ВКЛ амаль за пяць гадоў, што прайшлі ад падпісання Ям-Запольскага перамір'я да смерці Стэфана Баторыя, так і не здолела дасягнуць далучэння ўсіх Інфлянтаў да Вялікага Княства. У першую чаргу, гэта адбылося з-за апазіцыі польскага боку і безвыніковасці вальных соймаў Рэчы Паспалітай. Не спяшаўся займаць нейкі адзін бок у канфлікце і Стэфан Баторый. Гэты канфлікт выявіў у адносінах палітычных элітаў ВКЛ і Польшчы наяўнасць вельмі глыбокага ўзаемнага недаверу, які, напэўна, быў народжаны яшчэ падчас надзвычай супярэчлівага працэсу заключэння Люблінскай уніі. Польскі бок глядзеў на літвінаў высакамерна, апошнія, у сваю чаргу, падазравалі палякаў у спробах абмежаваць правы і свабоды Вялікага Княства. Літвіны не хацелі, каб іх краіна ў складзе Рэчы Паспалітай сталася проста правінцыяй, як Вялікая ці Малая Польшча. На заключным пасяджэнні вальнага сойма 1585 г. выбітны дзеяч таго часу А. Валовіч у сваёй прамове падкрэсліў надзвычай важны для "палітычнага народа" Вялікага Княства Літоўскага момант: "З народам Польскім … ва ўсім роўным сябе народ Літоўскі ўсведамляе".

**Артыкул:** *Падалінскага Уладзіміра*



**5 сакавіка 1279 г. — перамога войска ВКЛ на чале з Трайдзенам над ордэнскім войскам у бітве пры Ашэрадзэне**

# Дазорца беларускіх замкаў

10 сакавіка споўнілася б 70 гадоў Міхасю Ткачову. Гісторыку, палітыку, настаўніку.
Сёлета ж, 31 кастрычніка, споўніцца 20 гадоў з дня смерці Ткачова. За гэтыя гады ў краіне адбылася незлічоная колькасць пераменаў. Аднак Беларусь па-ранейшаму змагаецца за сваё нацыянальнае існаванне. І шмат дзе не хапае прысутнасці Міхася Ткачова, яго мудрасці і аўтарытэту: у палітыцы, у навуцы, у адукацыі…



Міхась Ткачоў нарадзіўся ў старажытным Мсціславе, у сям'і настаўнікаў.
Яго бацька, Аляксандр Рыгоравіч, загінуў у 1942 пад Ленінградам, не паспеўшы даведацца аб нараджэнні сына. Міхася гадавала маці, Дамініка Сямёнаўна. У мсціслаўскіх ваколіцах, якія дыхалі гісторыяй — на замкавай гары, сярод храмаў і кляштараў — выспявала рамантычная натура будучага навукоўца.
З іншага боку, паўгалоднае паваеннае жыццё, няспраўядлівасць савецкай улады спрычыніліся да яго ранняга духоўнага сталення.
У 1959 годзе Міхась Ткачоў паступае на гістарычны факультэт БДУ. Але вучоба пачалася не адразу: школьнікі, якія не мелі двух гадоў працоўнага стажу, першы курс вучыліся завочна. Будучыя інтэлігенты мусілі прайсці пралетарска-сялянскую загартоўку. Міхась Ткачоў, якому не хапала некалькіх месяцаў «стажу», вяртаецца ў Мсціслаў і напрацоўвае неабходнае паляводам у калгасе…
Гады вучобы на гістфаку былі часам яго знаёмства з сярэднявечнай гісторыяй Беларусі, да якой ён прыкіпеў на ўсё жыццё. Пасля ВНУ Ткачоў марыў адразу ж паступіць у аспірантуру, каб далей вывучаць Сярэднявечча.
Сумнавядомы Лаўрэнцій Абэцэдарскі, доўгі час «карміў» маладога і здольнага студэнта абяцанкамі будучай аспірантуры. А калі дайшло да справы, адмовіў.
У тыя часы галоўным кірункам вывучэння была гісторыя савецкага часу. Адаптацыя да тагачаснага Мінска таксама праходзіла балюча. Ткачоў успамінаў, як ён, правінцыйны хлопец з рамантычнай душою, ехаў у беларускую сталіцу як у духоўны цэнтр Бацькаўшчыны, а яго сустрэў чужы расейскамоўны горад.
Праўда, паступова ён знайшоў там патрыятычнае асяроддзе. Малады студэнт Ткачоў знаёміцца са Станіславам Шушкевічам, паэтам, які нядаўна вярнуўся з ГУЛАГу, з Язэпам Сушынскім, паплечнікам Янкі Купалы яшчэ па працы ў суполцы «Загляне сонца і ў нашаеваконца».
Лёс звязвае яго з старэйшым гісторыкам Мікалаем Улашчыкам. Яны сябравалі (вопыт і маладосьць) да апошніх дзён Мікалая Улашчыка. Сваю кнігу «Замкі і людзі» Ткачоў прысвяціў гэтаму выдатнаму беларускаму навукоўцу. А Мікалай Улашчык падарыў Ткачову падрыхтаваны ім том беларуска-літоўскіх летапісаў з аўтографам і прысвячэннем: «Дазорцу беларускіх замкаў».



*Мірскі замак. 1972 год. Міхась Ткачоў. Фота Міхася Чарняўскага.*

Пасля заканчэння ўніверсітэта Ткачоў быў размеркаваны ў Жодзіна. Працуючы ў школе, ён чатыры гады чакаў, калі адбудзецца набор у аспірантуру Інстытута гісторыі АН БССР у сектар гісторыі Беларусі эпохі феадалізму. Але на гэты кірунак усё не набіралі. Таму у 1968 годзе Ткачоў, паслухаўшы сяброў-археолагаў, пaступае ў аспірантуру па спецыяльнасці «археалогія».

Выйшла нават лепей. Ткачоў адным з першых пачаў працаваць на мяжы гісторыі і археалогіі, вывучаючы абарончае дойлідства Вялікага Княства Літоўскага.

Прафесар Ткачоў быў пачынальнікам «гістарычнай археалогіі» ў СССР. Ён праводзіў раскопкі ў Гродне і Навагрудку, Лідзе і Крэве, Міры і Геранёнах, Мядзеле і Маладзечне, Дрысвятах і Іказні, Браславе…



*Міхась Ткачоў і аўтар (Генадзь Семянчук). Ліпень 1989 г. Браслаў. Раскопкі «Замкавай гары».*

Асабліва трэба адзначыць яго «піянерскія» даследаванні гарадоў усходняй Беларусі, якія ён пачаў у другой палове 1970-х. І зноў раскопкі ў Віцебску, Магілёве, Мсціславе, Крычаве, Гомелі, Чачэрску, Прапойску… У сваіх працах Ткачоў пераканаўча паказаў высокі ўзровень абарончай сістэмы гарадоў і мястэчак Падняпроўя і Падзвіння. Гэта была рэакцыя на складаныя адносіны з суседняй Маскоўскай дзяржавай у XVI–XVIII ст.

Міхась Ткачоў напісаў каля 200 навуковых прац, з іх 10 кніг. На падставе яго дысертацый ствараліся кнігі, якія маментальна рабіліся бестселерамі сярод спецыялістаў і звычайных чытачоў. Напрыклад, яго «Замкі Беларусі» вытрымалі тры перавыданні.

Гісторык, археолаг, крыніцазнаўца, геральдыст — вось непоўны спіс яго талентаў.

Галоўная ўвага Міхася Ткачова была скіраваная на даследаванне вайсковай гісторыі Беларусі. Аналізуючы хронікі, матэрыялы археалагічных раскопак, выявы старажытных беларускіх фартэцый прафесар Ткачоў давёў, што, будуючы замкі, нашы продкі выкарыстоўвалі найноўшыя еўрапейскія дасягненні ў галіне фартыфікацыі.

Менавіта Ткачоў пераканаўча даводзіў (яшчэ ў 1970-я!), што Беларусь, яе народ займаюць роўнае і пачэснае месца сярод іншых еўрапейскіх народаў і краін.

Працуючы ў Інстытуце гісторыі, Ткачоў, аднак, не меў у Мінску жылля. Ён працягваў жыць у Жодзіне і штодня марнаваў багата часу на пераезды. Таму, калі ў Гродне быў арганізаваны ўніверсітэт і яму прапанавалі працаваць там, паабяцаўшы жыллё, ён адразу ж пагадзіўся.

Ад 1978 года лёс на доўгія дванаццаць гадоў звязаў Міхася Ткачова з Гроднам.

«Сапраўдны музей пад адкрытым небам» — так называў Ткачоў горад над Нёманам. Яшчэ ў 1988 годзе ён звярнуўся ў абкам партыі з прапановай рэалізаваць 12-гадовую гісторыка-культурную праграму «Гродна — горад-музей. Гродна — горад музеяў».

Прапаноўвалася стварыць у горадзе 18 музеяў і мемарыяльных цэнтраў. Старажытная Гародня пераўтварылася б у нацыянальны і міжнародны цэнтр турызму.

Ткачоў не баяўся адзін выступіць супраць разбурэння гістарычных кварталаў Гродна XVIII-XIX ст.

Мясцовая ўлада доўга прыгадвала яму тую скаргу ў Савет Міністраў СССР.

У канцы 1980-х Ткачоў быў лідарам гродзенскага гісторыка-культурнага і палітычнага клуба «Паходня». Клуб зрабіўся цэнтрам дэмакратычнага руху горада, гэта была ўнікальная школа жыцця і патрыятызму для моладзі.

Як тады перапалохаліся ахоўнікі савецка-камуністычнай ідэі! Было арганізавана дзікае цкаванне Міхася Ткачова і сябраў «Паходні», запалохванне студэнтаў. А калі Ткачоў быў вылучаны кандыдатам у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, які толькі бруд на яго не лілі. Падрабязней пра гэта можна прачытаць ў кнізе публіцыстыкі М. Ткачова «Паходня». Адзін толькі прыклад — «палемічны» артыкул Валерыя Чарапіцы, дэкана гістарычнага

факультэта Гродзенскага дзяржуніверсітэта, непасрэднага начальніка Ткачова, «Будем честными друг к другу». Ён быў надрукаваны ў «Гродзенскай праўдзе» ў 1989-м, у час, калі Ткачоў праходзіў курс пасляаперацыйнай рэабілітацыі…

У 1989 годзе Міхасю Ткачову прыйшлося пакінуць мілае яго сэрцу Гродна і пераехаць у Мінск. Працуючы ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» (спачатку кіраўніком гістарычнай рэдакцыі, а пазней галоўным рэдактарам),Ткачоў быў ініцыятарам стварэння фундаментальнай энцыклапедыі «Археалогія і нумізматыка Беларусі», шасцітамовага выдання «Энцыклапедыя Гісторыі Беларусі».

Актыўная грамадзянская і патрыятычная пазіцыя Міхася Ткачова не дазваляла яму знаходзіцца на ўскрайку бурлівых пераменаў канца 1980-х. Міхась Ткачоў абіраецца намеснікам старшыні Сойму Беларускага Народнага Фронту.

Гэта была фігура ў кіраўніцтве БНФ, сустрэчы і супрацоўніцтва з якой шукала і партыйнае кіраўніцтва БССР, бачачы ў ім лідэра, які хварэў за Бацькаўшчыну і з якім можна было знайсці кропкі супрацы.

Да гэтага, улічваючы моц кампартыі, заклікаў і Ткачоў. Потым, калі сітуацыя ў БНФ дайшла да фактычнага расколу, ён стаў адным з ініцыятараў, затым -актыўным стваральнікам сацыял-дэмакратычнага руху Беларусі.

У сакавіку 1991 Ткачоў быў абраны старшынёй Цэнтральнай Рады Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Грамады.

Для большасці людзей, якія яго ведалі асабіста, ён быў у першую чаргу добрым, спагадлівым чалавекам, уважлівым настаўнікам і сябрам. Адкрыты для кожнай цікавай і арыгінальнай прапановы, ён сам генераваў ідэі, якія толькі цяпер пачынаюць рэалізоўвацца нашчадкамі. У адным з сваіх апошніх інтэрв'ю ў 1992 годзе, на пытанне, што ён лічыць сёння галоўным у жыцці Беларусі, Міхась Ткачоў адказаў:

«Лічу найважнейшым і неабходным кожнай партыі, кожнаму чалавеку стаць „дзяржаўнікамі“: усімі сіламі і сумеснымі намаганнямі мацаваць суверэнітэт і незалежнасць Бацькаўшчыны, ствараць цывілізаванае, салідарнае, дэмакратычнае грамадства».

Час у нашай краіне спыніўся, і словы Настаўніка актуальныя і сёння.

Прайшло амаль дваццаць год жыцця Беларусі пасля смерці Міхася Ткачова. У краіне адбылася незлічоная колькасць пераменаў. Аднак сапраўдная Беларусь надалей змагаецца за сваё нацыянальнае існаванне і шмат дзе не хапае прысутнасці Міхася Ткачова, яго мудрасці і аўтарытэту.

У палітыцы: немагчыма ўяўвіць, каб Міхась Ткачоў зацвярдзеў як палітык-апазіцыянер, падобна некаторым лідарам сучаснай беларускай апазіцыі.

Пры жыцці Міхася Ткачова нават у чорным сне не ўяўляўся падзел Грамады (беларускай сацыял-дэмакратыі) на некалькі частак.




У навуцы: сёння беларуская акадэмічная і ўніверсітэцкая гістарычная і археалагічная навука пераўтварыліся ў суцэльны камерцыйны праект.

Такія паняцці, як ахова помнікаў, вывучэнне невядомых старонак мінулага, вырашэнне важных гуманітарных і культуралагічных праблемаў забыліся. На жаль, прайшла эпоха сапраўдных навуковых аўтарытэтаў, а прыйшоў час няўдзячных зайздроснікаў і перманентных няўдачнікаў. Таму ўсё часцей чытаеш і чуеш пра прафесара Міхася Ткачова і

іншых беларускіх археолагаў сталага веку, нібыта яны слабыя навукоўцы, усё больш сурова і несправядліва крытыкуюць іх высновы асобы, якія пры жыцці альбо карысталіся дабрынёй Ткачова, альбо баяліся адкрыта выказвацца супраць яго ідэй.

У адукацыі: адсутнасьць маральных і навуковых аўтарытэтаў кшталту Міхася Ткачова моцна зменшыла ўплывы гістарычных факультэтаў беларускіх універсітэтаў на культурнае і сацыяльнае жыццё нашага грамадства.

Нават спецыялісту сёння цяжка назваць прозвішчы і навуковыя школы вядучых даследчыкаў у сістэме ўніверсітэцкай адукацыі. Адчуванне, што пакаленне дактароў гістарычных навук, абароненых у 1990–2000-я, мела за мэту палепшыць дабрабыт і сацыяльны статус. А светлыя ідэі развіцця навукі пакінутыя на заўтрашні дзень. Таму

беларускі рынак не перапоўнены новымі даследаваннямі па гісторыі і культуры Бацькаўшчыны, а творы напісаныя Міхасём Ткачовым, Мікалаем Улашчыкам, Міколай Ермаловічам надалей застаюцца актуальнымі альбо адзінымі па пэўных навуковых праблемах.

**Артыкул:** *Г Семянчука*



# Загадкавы партрэт Радзівіла Сіроткі

15 верасня 1564 года з Берасця ў Страсбург ад віленскага ваяводы князя Мікалая Радзівіла (Чорнага) яго сыну Мікалаю Крыштофу Радзівілу па мянушцы Сіротка (1549–1616) паляцеў з поштай ліст, у якім бацька з лёгкай іроніяй папікаў сына.

Маўляў, гледзячы на дасланы ў ВКЛ партрэт юнака, дзе ён паказаны ў элеганцкім капелюшы і з вялізным залатым ланцугом на грудзях, складаецца адчуванне, быццам сын трапіў пад уплыў «буржуазных» густаў свайго апекуна Бальтазара Язерскага.

І хаця паказаны на гравюры ланцуг быў выраблены для атрыманага Сіроткам з радзімы патрыятычнага залатога медальёна з выявамі караля Жыгімонта Аўгуста і герба Пагоні — вырак старэйшага Радзівіла гучаў няўхвальна. Зусім у духу строгай стрыманасці і высакародных этычных пасылаў, якія прапагандаваў служка Радзівілаў, ураджэнец Навагрудку і выбітны беларускі філосаф Андрэй Волян, сакратар Радзівіла Чорнага, а пазней вялікага князя Жыгімонта IV. У сваім трактаце «Аб грамадзянскай, або палітычнай свабодзе» (1571) Волян пісаў: «Платон гаворыць, што шчаслівымі робіць людзей не само валоданне дабротамі, а іх разумнае выкарыстанне». Сучасны аматар мастацтва наўрад ці заўважыў бы ў выяве Сіроткі залішнюю пампезнасць — густы мяняюцца.




***Манаграміст IZ. Партрэт Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі. Дрэварыт. 1564–1566. З кнігі Марціна Крузіуса***

Ці зрабіўся дасланы вобраз маладога князя ўзорам жывапіснага партрэта для фамільных галерэй, што яго бацька пачаў збіраць у той час у нясвіжскай і віленскай рэзідэнцыях Радзівілаў, — невядома. Да апошняга часу

заставалася загадкай і імя аўтара першаўзору адлюстравання. Бацька атрымаў ад сына не малюнак, а дрэварыт паводле яго, захаваны сёння ў двух версіях. Яны пазначаны манаграмай IZ і адрозныя толькі дэталямі надпісаў у верхняй частцы аркушаў. Адзін месціцца ў выданні грэчаскай паэзіі настаўніка грэчаскай мовы Сіроткі ў Страсбургскім універсітэце Марціна Крузіуса — Martini Crusii Poematum graecorum libri duo…, што выйшла ў Базэлі ў 1566 годзе. Другі, падфарбаваны ў колер — у «альбоме сяброў» (на лаціне Album amicorum), які належаў Гераніму Кёлеру з Нюрнбергу, студэнту Цюбінгенскага ўніверсітэта, эпізадычнаму знаёмцу Радзівіла па гэтай навучальнай установе. Альбом захоўваецца ў Брытанскай бібліятэцы пад шыфрам Egerton MS. 1184. У Лондан каштоўны рарытэт трапіў са збораў нюрнбергскага антыквара Бэзэля ў XIX стагоддзі, а запачаткаваны сваім складальнікам Кёлерам быў у 1561 годзе.



*Давід Кандэль. Партрэт Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі. 1563–1564. Малюнак. Луўр*

Гэтакія «Альбомы сяброў» утрымлівалі папяровыя ці пергаментныя аркушы з памятнымі запісамі, пажаданнямі, вершамі, цытатамі лацінскіх і грэчаскіх аўтараў, і дапасаваныя да іх геральдычныя, эмблематычныя і партрэтныя выявы, і набылі вялікую папулярнасць ад сярэдзіны XVI стагоддзя. Іх пераважна складалі студэнты з пратэстанцкіх колаў Германіі, Нідэрландаў, Скандынавіі, Польшчы.

Кёлер і Радзівіл «Сіротка» спаткаліся ў Цюбінгене, а «аўтарскі аркуш» з выявай Мікалая Крыштафа трапіў у збор, паводле подпісу, 15 студзеня 1565 года. Ён дапоўніў іншыя 300 аркушаў, ахвяраваныя сябрамі-студэнтамі і выкладчыкамі Кёлера ў гады навукі і падарожжаў у Нюрнбергу, Цюбінгене, Вітэнбергу і іншых гарадах.

Альбом, які адчыняе гравіраваная выява Лютэра, лацінскі верш і герб з сямейным дэвізам гаспадара, вылучаўся выключнай якасцю і заслужыў ухвальны водгук самога Філіпа Меланхтона, паплечніка Лютэра. Меланхтон трымаў кёлераўскі збор у руках і ахвяраваў у яго ўласнае гравіраванае адлюстраванне работы Альбрэхта Дзюрэра. А чыя рука пакінула нашчадкам выяву беларускага магната, што паслужыла першаўзорам для гравюр у кнізе Крузіуса і ў альбоме Кёлера?

У чэрвені 1563-га 13-гадовы Мікалай Крыштаф Радзівіл Сіротка, будучы заснавальнік мураванага Нясвіжскага замку і катэдры, аўтар слыннай кнігі пра падарожжа ў Святую Зямлю, з бласлаўлення бацькі, накіраваўся па навуку ў Заходнюю Еўропу. У дарожных куфрах ляжалі рэкамендацыйныя лісты да нямецкіх арыстакратаў і дзеячаў рэфармацыйнага руху, універсітэцкай прафесуры. Тых, хто мог паспрыяць навучанню і кшталтаванню юнака пры еўрапейскіх дварах — спачатку ў Германіі, потым у Італіі. Шлях ішоў праз Лейпцыг, Нюрнберг, Штутгарт да Страсбургу, дзе віленскі ваяводзіч затрымаўся даўжэй. Страсбург, горад вынаходніка еўрапейскага кнігадрукавання Іагана Гутэнберга, сталіца Эльзаса, у той час уваходзіў у склад Свяшчэннай рымскай імперыі германскага народа і славіўся сваёй пратэстанцкай гімназіяй. Па прывілеі імператара Максімільяна II ад 1566 года гэтая заснаваная ў 1538-м філолагам-лаціністам Іаганам Штурманам установа атрымала статус універсітэта.

Малады Сіротка, носьбіт спадчыннага тытулу князя імперыі, быў прыняты ў

арыстакратычнай па складзе студэнтаў вучэльні з пашанай і рэктарам Штурманам, і іншымі выкладчыкамі. Здольны і ўважлівы вучань ужо вызначаўся добрай хатняй падрыхтоўкай. На мэце ён ставіў дасканаленне ў нямецкай, лацінскай, грэчаскай мовах (у прыгаданага Крузіуса), у рыторыцы, матэматыцы, тэалогіі і медыцыне. Цікаўнасць да апошняй спалучалася з вывучэннем сродкаў лекавання, у першую чаргу раслін. У часы Сіроткі батанічныя веды страсбургскія студэнты атрымлівалі па кнізе нямецкага батаніка Геранімуса Бока «Kreutterbuch» («Кніга раслін»). Аўтар прыводзіў у ёй новую, адрозную ад антычнай сістэмы Дыяскарыда класіфікацыю некалькіх сотняў раслін, зёлак, дрэў. Першае ілюстраванае выданне кнігі Бока з 550 дэталёвымі дрэварытамі з’явілася ў 1546 годзе, у аздабленні Давіда Кандэля (David Kandel, 1520–1592). Кандэль, вядомы як аўтар шматлікіх іншых гравюр і малюнкаў, каштоўных мапаў, ілюстрацый да атласу свету — «Касмаграфіі» Мюнстэра, а таксама партрэтаў, жыў якраз у Страсбургу, куды ў 1563 годзе прыбыў Сіротка.

Тут мы мусім спыніцца, бо, як высвятляецца, не толькі ілюстратарская праца Кандэля трапіла ў рукі беларускага студэнта. Як сведчыць нядаўна ідэнтыфікаваны ў калекцыі Луўра партрэтны малюнак маладога Радзівіла з аўтарскай манаграмай DK, першаўзор дасланай у Беларусь гравюры, князь быў намаляваны менавіта Кандэлем (у Луўры твор захоўваецца пад нумарам INV 18707). Аркуш мусіў паўстаць раней верасня 1564-га, калі Сіротка адаслаў на радзіму гравюру паводле малюнка, і пасля гадавога побыту пакінуў Страсбург з прычыны эпідэміі чумы, каб працягнуць навуку ў іншым пратэстанцкім універсітэце — у Нюрнбергу. Там, дзе яму выпала сустрэць Гераніма Кёлера і таксама пакінуць у альбоме апошняга свой партрэт.

равюрныя выявы маладога князя маюць іншаю манаграму — IZ. Аднак, звычайна гравюры наследуюць папярэдні аўтарскі малюнак, і капіруе яго не абавязкова той самы майстар. Арыгінальны твор пры тыражаванні, па тэхналогіі, адбіваецца ў люстраным адвароце. Так сталася і з першаўзорам гравюр з калекцыі парыжскага Луўра, пазначаным манаграмай Кандэля «DK», які разгорнуты ў адваротны левы бок. Ён — бясспрэчнае сведчанне сустрэчы ў Страсбургу беларускага магната і нямецкага мастака і доказ аўтарства апошняга.




*Давід Кандэль. Насарог. Гравюра з выдання “Касмаграфіі” Мюнстэра. 1598.*

На выкананым алоўкам, пяром і чорным атрамантам па кардоне малюнку з Луўра постаць паўстае, як і на гравюрах, у адлюстраванні па пояс. Розніца малюнка і гравюр не толькі ў арыентацыі выявы, але і ў дробных дэталях, размяшчэнні абапёртых на парапет рук, у якія ўкладзены сімвал прагі да ведаў — кніжка (на малюнку князь трымае яе аберуч, на гравюрах — правай рукой). Іншая манаграма на гравюры (IZ), як мяркуецца, хавае імя падмайстра Кандэля. Ёсць розніца і ў эстэтычнай якасці твораў. Малюнак з Луўра, узор папулярных у часы Рэнесансу хуткіх, тонкіх, зробленых алоўкам, сангінаю або пяром, часам трохі падфарбаваных партрэтных замалёвак — сапраўдны шэдэўр свайго жанру. Менш дэталёва паказаныя гарнітур з вышыўкай на рукавах, упрыгожанні на грудзях (падвеска ў павялічаным маштабе размешчана на палях аркуша), больш уважліва — капялюш з дэкаратыўным кордам, і асабліва твар. Юначы, але поўны засяроджанасці, з пранікнёнымі вачыма, выразна сціснутымі вуснамі — вобраз самадастатковы, халаднаваты, арыстакратычна-аддалены ад гледача. Вобраз асобы рэнесанснай эпохі, дапытлівай і энергічнай, створаны рэнесансным мастаком, здабытак як нямецкага, так і беларускага мастацтва. Такія творы ў XVI стагоддзі натхнялі як узор беларускіх партрэтыстаў.

Што тычыцца Радзівіла і Кандэля, то іх сустрэча адбылася не выпадкова: яны былі асобамі блізкімі па рэнесансных, навуковых, «натурфіласофскіх» інтарэсаў. Дадамо прыклад. Сіротка, вяртаючыся пазней з

падарожжа ў Святую Зямлю і Егіпет (1583–1584), набыў з сабой у родны Нясвіж (іншая справа, што не давёз) калекцыю экзатычных рэчаў — ад старажытных мумій да гепардаў, малпаў і іншых прадстаўнікоў жывёльнага свету Афрыкі. Кандэль калекцыянаваў незвычайная рэчы навакольнага свету ў мастацкіх вобразах.

Варта прыгадаць выяву насарога, уключаную Давідам Кандэлем у шэраг ілюстрацый атласа Мюнстэра: так рэнесансная Еўропа ўпершыню са старажытнарымскіх часоў і апісанняў Плінія Старэйшага адчыняла для сябе заалагічныя экзоты іншых кантынентаў. Прывезены з Індыі адміралам Афонса дэ Албукеркі ў 1515 годзе для партугальскага караля Мануэля I насарог, пазней падараваны манархам папу Льву X Медычы, быў выяўлены знакамітым Альбрэхтам Дзюрэрам. А ў часы Сіроткі адлюстраванне насарога ў кніжную гравюру перавёў Кандэль. Уласна, цікавасць да незвычайных рэчаў, выдатных людзей, да навукі і пазнання свету зблізіла беларускага князя і нямецкага мастака, творцу і мадэль яго партрэта.

**Артыкул:** *Аляксея Хадыкі*



# ARCHE

## Рэвізія Полацкага ваяводства 1552 года

Рэвізію Полацкага ваяводства 1552 года з поўным правам можна залічыць да гістарычных помнікаў, якія належным чынам яшчэ не ацэненыя нашай навукай. Спасылкі на Полацкую рэвізію мы сустракаем не так часта нават у спецыяльнай літаратуры, прысвечанай гісторыі Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага XVI стагоддзя. Цяжка сказаць, што стала таму прычынай. Магчыма, справа ў тым, што рэвізію звычайна разглядаюць як крыніцу па сацыяльнай і эканамічнай гісторыі. Можа быць, прычынай таму стаў яе рэгіянальны характар. Аднак у рэчаіснасці значэнне Полацкай рэвізіі зусім не абмяжоўваецца пытаннямі гаспадарчага жыцця і сацыяльнай структуры насельніцтва. Тое самае можна сказаць і пра рэгіянальны характар апісання — нягледзячы на тое, што галоўным аб'ектам увагі рэвізораў было, безумоўна, Полацкае ваяводства, мы знаходзім у рэвізіі даволі шмат звестак па гісторыі іншых земель Вялікага Княства Літоўскага. Ёсць тут і матэрыялы, якія датычацца суседніх дзяржаў.

**Рэвізія Полацкага ваяводства 1552 года**




Перш чым пачаць гаворку непасрэдна пра рэвізію, варта некалькі слоў сказаць пра эпоху і ўмовы, у якіх яна была створаная.

Пачынаючы з 1501 года, калі была аднаўленая персанальная унія паміж Каралеўствам Польскім і Вялікім Княствам Літоўскім, гэтымі дзвюма дзяржавамі практычна ўвесь час аж да выгасання дынастыі Ягелонаў у 1572 годзе кіраваў адзін манарх. Спачатку гэта быў Жыгімонт I Стары, а потым яго сын Жыгімонт II Аўгуст. У два апошнія дзесяцігоддзі свайго доўгага кіравання Жыгімонт Стары (памёр у 1548 годзе) жыў пераважна ў Польшчы і мала займаўся справамі Вялікага Княства. А гэтыя справы часта вымагалі асабістага ўдзелу манарха. Без гэтага ўдзелу не маглі вырашацца многія, у тым ліку жыццёва важныя праблемы: ад гаспадарчых да ваенна-палітычных. І сітуацыя паказвала, што цэлы шэраг гэтых праблем сапраўды патрабаваў неадкладнага вырашэння.

У 1544 годзе на Берасцейскім сойме адбылася перадача ўлады ў Вялікім Княстве Літоўскім 24-гадоваму каралю і вялікаму князю Жыгімонту II Аўгусту. Жыгімонт I Стары захаваў за сабой толькі вярхоўную ўладу над Вялікім Княствам. Малады гаспадар энергічна

ўзяўся за справу, і адным з яго першых мерапрыемстваў было правядзенне рэвізій гарадоў і цэлых зямель Вялікага Княства. Ужо ў 1545 годзе была праведзеная рэвізія ўкраінскіх замкаў: Уладзіміра, Луцка, Крамянца, Вінніцы, Брацлава і Житоміра. Адначасова апісваліся сёлы, якія належалі (цягнулі) да гэтых замкаў. Рэвізіі 1545 года з усёй відавочнасцю паказалі неабходнасць такіх мерапрыемстваў, бо стан замкаў аказаўся папросту катастрафічным. Шчасце, што Вялікаму Княству ў гэты час не давялося весці абарончых войнаў на паўднёвым кірунку.

*Замаўляючы кнігу праз dastauka@arche.by, у полі "Тэма" пазначайце "Рэвізія Полацкага ваяводства 1552 года" У замове пазначайце свае дакладныя каардынаты: паштовы адрас, індэкс, прозьвішча і ініцыялы, а таксама тэлефон для камунікацыі.*



## *15 сакавіка 1994 г. прынятая Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь*

*Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь прынята Вярхоўным Саветам 15 сакавіка 1994 году. Гэта была пятая па ліку Канстытуцыя ў гісторыі Беларусі (раней Канстытуцыі БССР прымаліся ў 1919, 1927, 1937, 1978). Канстытуцыя 1994 году абвясьціла Рэспубліку Беларусь унітарнай дэмакратычнай сацыяльна-прававой дзяржавай. Тэрмін «сацыяльна-прававая дзяржава» азначае, што асноўнай мэтай РБ зьяўляецца стварэньне ўмоваў для свабоднага разьвіцьця асобы, рэалізацыя яе інтарэсаў у рамках існых законаў. Канстытуцыя ўстанавіла новую – прэзыдэнцкую форму дзяржаўнага кіраваньня. Пры прэзыдэнцкай форме кіраваньня Прэзыдэнт зьяўляецца кіраўніком дзяржавы. Ён фармуе вышэйшы выканаўчы орган улады – урад (Савет Міністраў) і нясе адказнасьць за*

# Рубрыка "Што?Дзе?Калі?"

### *Хто такі Вацлоў Жылінскі?*

Вацлаў Жылінскі (1 сакавіка 1803, Віленская губэрня — 23 красавіка 1863, Санкт-Пецярбург) — рымска-каталіцкі дзяяч. Біскуп віленскі (ад 1848), арцыбіскуп магілёўскі (ад 1856), мітрапаліт.

Прадстаўнік шляхецкага роду Жылінскіх.



Скончыў Віленскую духоўную акадэмію, пасьвечаны ў сьвятары ў 1826, быў дэканам Менскае катэдры; ад 1827 — рэгент і прафэсар Менскае духоўнае сэмінарыі й пробашч у Івянцы. Канонік менскае капітулы ад 11 красавіка 1829.

10 чэрвеня 1829 выехаў у Пецярбург у якасьці асэсара Рымска-каталіцкае духоўнае калегіі.

Ад 1832 — прэлат віленскае капітулы, ад лістапада 1846 — адміністратар Віленскае дыяцэзіі, ад 3 ліпеня 1848 — біскуп віленскі (кансэкраваны 17 сьнежня 1848 у касьцёле сьв. Кацярыны ў Пецярбургу).

У верасьні 1856 папа Піюс IX пагадзіўся з пажаданьнем Аляксандра II прызначыць В. Жылінскага арцыбіскупам Магілёўскім, і 9 сьнежня 1856 ён атрымаў палій арцыбіскупа.

## Горкая гісторыя беларускіх помнікаў культуры і архітэктуры

### Дом культуры «Альбярцін»

Былы загарадны маёнтак графаў Пуслоўскіх Альбярцін сёння ўваходзіць у рысу горада Слоніма. Каменны двухпавярховы дом XIX ст. у сярэдняй частцы мае порцік і разгалінаваную лесвіцу, а побач – скульптуры ільвоў. Захавалася і старая гаспадарчая прыбудова.

Зараз тут знаходзіцца Дом культуры. Будынак пафарбавалі ў светла-зялёны колер, і велічныя львы ля прыступкаў на гэтым фоне сталі выглядаць недарэчна.





### Пратэстанцкая царква ў Беларусі напрыканцы XVIII - пачатку XX стст.

У другой палове XVIII ст. у Вялікім Княстве Літоўскім пражывала каля 1% (ад агульнай колькасьці насельніцтва) пратэстантаў, як лютаранаў, так і кальвіністаў (або рэфарматараў). З прычыны нешматлікасьці ў 1768 г. на рэфармацкім сынодзе ў Вільні была разгледжана ідэя іх вуніі. Але яна не знайшла падтрымкі. Гэта было зьвязана як з канфэсійнымі адрозьненьнямі, так і з станавымі і нацыянальнымі. Лютаранства вызнавала латыскае й нямецкае насельніцтва, якое было ў асноўным сялянскім і мяшчанскім, кальвінства - беларусы й палякі і, як правіла, шляхоцкага паходжаньня.

Ня маючы магчымасьці атрымаць дзяржаўныя кіроўныя пасады ў Рэчы Паспалітай, пратэстанцкая шляхта займалася вайсковай справай. Гэтая традыцыя працягвалася і пазьней, у часы Расейскае імпэрыі. Сярод вядомых вайскоўцаў былі бароны Розэны, лютаране прыбалтыйскага паходжаньня. Сям'я графаў Грабоўскіх (гэрбу Тапор), якія вызнавалі кальвінства, дала нямала як ваенных дзеячаў, так і дзеячаў дысыдэнцкага руху на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага. Сярод іх маршалак слуцкай канфэдэрацыі Ян Грабоўскі, ягоны сын Юрай - генэрал-інспэктар літоўскага войска, удзельнік паўстаньня 1794 г., літоўскі крайчы Зыгмунт Грабоўскі, які нарадзіўся ў Асташыне Наваградзкага павету і быў удзельнікам баёў супраць Таргавіцкай канфэдэрацыі 1792 г. (за ўдзел у паўстаньні 1794 г. быў высланы ў Сыбір, затым ваяваў у 1812 г. на баку Напалеона, служыў у расейскім войску ў часе Турэцкай кампаніі 1828 - 1829 гг.) ды інш.

Паводле канстытуцыі Рэчы Паспалітай 1768 г., гарантам якой выступіла Кацярына II, лютаранам і кальвіністам было нададзенае права свабоднага адпраўленьня веры, заснаваньня сваіх кансысторыяў і сынадальных сходаў. Духоўным і сьвецкім сэн'ёрам дазвалялася рабіць візытацыі збораў (храмаў). Эвангеліцкія грамады Вялікага Княства Літоўскага склалі для сябе асобны царкоўны статут, вядомы пад назвай "дысыдэнцкае права". Згодна зь ім у пратэстанцкай царкве ўся выканаўчая, судовая і заканадаўчая ўлада належала Генэральнаму сыноду. Ён знаходзіўся ў Біржах (Летува) і займаўся царкоўнымі справамі праз кансысторыі, у склад якіх уваходзілі дэпутаты ад шляхты, духавенства й гарадзкіх грамадаў. У 1780 г. "дысыдэнцкае права" было надрукаванае ў Варшаве, але так і не было зацьверджана соймам Рэчы Паспалітай.

Пасьля далучэньня земляў Вялікага Княства Літоўскага да Расейскай імпэрыі царскі ўрад у 1797 г. скасаваў Генэральны сынод у Біржах. Але да "дысыдэнцкага права" ўрад зьвяртаўся не адзін раз, бо неабходна было ўладкаваць эвангеліцкія парафіі. 22 траўня 1828 г., у Пецярбургу быў заснаваны Камітэт для стварэньня праекту агульнага статуту

эвангеліцкіх цэркваў Расейскай імпэрыі. Пры абмеркаваньні былога "дысыдэнцкага права" было адзначана, што яно надае Генэральнаму сыноду такія правы, "якія ў манархічнай дзяржаве могуць належаць толькі дзяржаўнай уладзе". Акрамя таго, калі надзёнными справамі рэфармацкай царквы займалася Калегія ў Вільні і рэгулярна зьбіраўся (адзін або два разы на год) сынод, то лютаранскі сынод не зьбіраўся, а склад Віленскай лютаранскай кансысторыі не адпавядаў свайму статуту. У яе ўваходзілі замест 9 толькі 6 духоўных і сьвецкіх асобаў, якія не належалі да шляхты і таму не маглі старшынявацъ у кансысторыі. Пасьля звальненьня ў 1827 г. яе старшыні, барона Розэна, і сьмерці двух сябраў, лютаранская кансысторыя не магла знайсьці ім замену. Яна вымушана была зьвярнуцца да Галоўнай управы духовых справаў замежных веравызнаньняў у Пецярбургу з пытаньнем, ці можа яна ў складзе трох сябраў кіраваць Віленскай лютаранскай акругай. Між тым кансысторыі падпарадкоўваліся 15 лютаранскіх парафіяў з 20 тысячамі вернікаў у Менскай, Віленскай, Гарадзенскай губэрнях і Беластоцкай вобласьці. Указам імпэратара ад 22 чэрвеня 1830 г. Віленская лютаранская кансысторыя была скасаваная, а ейныя парафіі былі перададзеныя Курляндзкай лютаранскай кансысторыі. Да апошняй ужо належалі лютаранскія кірхі Віцебскай і Магілёўскай губэрняў.

28 сьнежня 1832 г. быў зацьверджаны статут эвангелічна-лютаранскай царквы ў Расейскай імпэрыі. Згодна зь ім, асновай лютаранскай царквы былі парафіяльныя грамады з пастарамі. Некалькі парафіяў складалі акругу на чале з пробстам, які абіраўся пастарамі. Сукупнасьць пробсцкіх акругаў стварала кансыторскую акругу на чале з кансысторыяй і супэрінтэндантам (або генэрал-супэрінтэндантам), якія былі духовымі асобамі.

Генэральны сынод, якому былі падпарадкаваныя лютаранскія цэрквы ў Расейскай імпэрыі, фактычна ні разу не зьбіраўся. Найвышэйшым органам стала Генэральная кансысторыя ў Пецярбургу. У яе склад уваходзілі сьвецкі прэзыдэнт, духовы віцэ-прэзыдэнт, 2 сьвецкія і 2 духовыя асобы. Пры кансысторыі былі пракурор і канцлер. Прэзыдэнт і віцэ-прэзыдэнт прызначаліся непасрэдна імпэратарам. І калі ў першай палове XIX ст. лютаранскія кансысторыі ў справаводстве карысталіся нямецкай мовай, то ў другой палове XIX - пачатку XX стст. - расейскай.

На пачатку 1860-х гг. у Расейскай імпэрыі існавалі ўсяго 8 лютаранскіх духовых кансысторскіх акругаў. Усе 5 заходніх губэрняў уваходзілі ў Курляндзкую кансысторскую акругу. Згодна са справаздачай пра стан эвангелічна-лютаранскай царквы за 1864 г., у Віленскай, Віцебскай, Магілёўскай, Менскай, Гарадзенскай губэрнях дзейнічалі 27 лютаранскіх кірхаў, у тым ліку 7 галоўных (парафіяльных), 8 прыпісных, шпітальная і хатняя, 11 малітоўных дамоў. На працягу ўсяго XIX - пачатку XX стст., нягледзячы на тое, што колькасьць лютаранскіх кірхаў некалькі павялічылася, колькасьць духавенства заставалася прыблізна аднолькавай: 11 духовых асобаў (9 пастараў і 2 кан'юнкт-пастары).

У Беларусі лютаранскія кірхі былі бедныя, бо парафіянаў яны мелі няшмат, ды і тыя не былі заможнымі. Напрыклад, паводле зьвестак Слуцкай эвангелічна-лютаранскай калегіі ад 10 лістапада 1833 г., кірха ў Слуцку была драўляная, пры ёй быў дом для пастара і дзяка. Кірха атрымлівала даходы ад агародаў, дома з лаўкамі на рынку, грашовых фундушаў, запісаных на маёнткі Бабоўка і Рамошы абшарніка Бяркевіча. Акрамя таго, грашовую дапамогу, па 400 злотых на год, ёй даваў Слуцкі рэфармацкі збор. Менская ж кірха ня мела наагул ніякіх капіталаў. Пры ёй быў дом для пастара, які на заробак (400 руб. срэбрам за год) павінны быў утрымліваць сваю сям'ю, парафіяльную вучэльню і прычэтнікаў. З просьбай пра дапамогу ў 800 - 1000 руб. на рамонт старога будынку кірхі полацкі пастар у 1840 г. зьвяртаўся да міністра ўнутраных справаў. Але апошні 14 лютага 1843 г. у лісьце да віцебскага, магілёўскага і смаленскага генэрал-губэрнатара паведаміў, што ён адмаўляецца хадайнічаць пра грашовую дапамогу ў сувязі з тым, што евангеліцкая грамада гораду складаецца выключна з тых пратэстантаў, што часова пражываюць у Полацку.

Дачыненьні лютаранаў з уладамі і праваслаўнай царквой былі даволі

памяркоўныя. І калі адкрыта царскія ўлады перашкодаў не чынілі, тым ня менш, па магчымасьці, імкнуліся стрымліваць рост колькасьці вернікаў і культавых установаў. У справаздачы обэр-пракурора Найсьцейшага Сыноду за 1883 г. адзначалася: "Лютаране, якія належаць да службовага і купецкага станаў, не праяўляюць фанатызму ў дачыненьні да праваслаўнай царквы, але і не спачуваюць ёй. Япархіяльнае кіраўніцтва робіць захады, каб адмежаваць праваслаўнае насельніцтва ад іншаверцаў". Да такіх захадаў адносілася, у прыватнасьці, забарона будаваць новыя храмы. Так, у 1902 г. эвангелічна-лютаранская Генэральная кансысторыя ўзбудзіла хадайніцтва аб дазволе царкоўнай радзе Дзьвінскае парафіі прыняць ахвяраваны ўласьнікам мястэчка Прэль Гулькевічам надзел зямлі (960 кв. саж.), каб пабудаваць там на сродкі вернікаў новы малітоўны дом. Згодна з законамі Расейскай імпэрыі, пабудова культавых будынкаў замежных хрысьціянскіх веравызнаньняў магла ажыцьцяўляцца толькі пры ўзгадненьні з праваслаўным япархіяльным кіраўніцтвам. У дадзеным выпадку такой згоды не было. Ліставаньне паміж віцебскім губэрнатарам, міністэрствам унутраных справаў і дэпартамэнтам духовых справаў замежных веравызнаньняў паказала, як праз усе захады ўрадоўцы шукалі абгрунтаваньні, каб адхіліць хадайніцтва.

Мова, на якой вялося набажэнства ў лютаранскай царкве, адпавядала нацыянальнаму складу яе парафіянаў. Так, калі ў Менскай і Магілёўскай губэрнях парафіянамі былі немцы, то, адпаведна, у набажэнстве выкарыстоўвалася нямецкая мова. Тое ж самае назіралася ў Гарадзенскай і Беластоцкай парафіях Гарадзенскай губэрні. У Віцебскай губэрні сярод лютаранаў апроч немцаў была значная колькасьць латышоў. І калі ў Віцебскай і Дынабургскай парафіях, дзе большасьць вернікаў былі немцы, карысталіся нямецкай мовай, то ў Крэйбургскім - латыскай. На пачатку XX ст. у полацкай парафіі сярод парафіянаў было 300 немцаў і 900 латышоў. Нягледзячы на тое, што латышы мелі колькасную перавагу, немцы адыгрывалі ў парафіі вызначальную ролю. Па-першае, яны былі заснавальнікамі парафіі. Купілі зямлю, пабудавалі ўсе царкоўныя будынкі і штогод ахвяравалі парафіі грошы. Ахвяраваньні ж латыскіх вернікаў складалі толькі трэцюю частку ўсёй сумы. У Полацку набажэнства вялося па чарзе як на нямецкай, так і на латыскай мовах, у маёнтку Ванцслававе (Лепельскі павет) - на латыскай.

Напрыканцы XVIII - пачатку XX стст. эвангелічна-рэфармацкая царква была падпарадкавана Віленскаму эвангелічна-рэфармацкаму сыноду (да 1840 г. -- Літоўскі). На ягоныя сходы зьбіраліся духовыя й сьвецкія асобы з рэфармацкай шляхты. Часьцей за ўсё сынод зьбіраўся ў Вільні, але ягоныя сходы праводзіліся і ў Беліцы Лідзкага павету, Ізабеліне Ваўкавыскага, Койданаве Менскага, Капылі і Слуцку Слуцкага, Расьне Берасьцейскага і Асташыне Наваградзкага паветаў.

Паміж сходамі ўсе надзённыя справы акрамя судовых вырашала Літоўская звангелічна-рэфармацкая калегія ў Вільні. Так, у 1830 г. яе старшынёй быў адстаўны маёр С. Цадроўскі, духовымі сябрамі - віленскія супэрінтэндант Р. Доўнар і віцэ-супэрінтэндант А. Лабоўскі, а сьвецкімі сябрамі - тытулярны саветнік І. Рэйзвэр і абшарнік Слонімскага павету Б. Пяжарскі, генэральным кантралёрам і сакратаром - калескі сакратар П. Мішэўскі. 24 чэрвеня 1831 г. быў зацьверджаны штат Віленскай рэфармацкай калегіі з 17 асобаў: сьвецкі прэзыдэнт з духовага званьня, 3 духозныя і 3 сьвецкія куратары, генэральны сакратар, пратакаліст, рэгістратар і 6 канцылярыстаў.

На пачатку XIX ст. эвангелічна-рэфармацкія зборы ўваходзілі ў склад Занёманскага дыстрыкта (зборы былі ў Ізабеліне, Ямне, Непакойчыцах, Берасьці, Асташыне, Беліцы, Зароі і Расьне), Беларускага (у Слуцку, Койданаве, Эйнаровічах, Копысі, акрамя таго капліцы ў Загальлі і Сямёнавічах), Вілейскага (у Вільні, Жупранах, Дзевялтове, Новым месцы) і Жмудзкага дыстрыктаў. Дыстрыкты ўзначальвалі супэрінтэнданты. Яны прызначалі міністраў (прапаведнікаў, пастараў), наглядалі за паводзінамі духавенства і праводзілі рэвізію збораў. Паводле дадзеных Віленскай рэфармацкай калегіі, 1865 г. у Віленскай, Гарадзенскай, Менскай і Магілёўскай губэрнях было 17 цэркваў і 821 парафіянін. Віленскі рэфармацкі сынод меў, паводле фундушовых запісаў, маёнткі і прыгонных. Якія прыносілі яму даход. У Гарадзенскай губэрні гэта былі

маёнтак Дакудава (22 душы сялянаў і 120 руб. даходу), Беліца (29 асобаў і 75 руб.), у Менскай - маёнткі Абухаўцы (198 сялянаў і 1.350 руб.), Чарнікоўшчына (85 асобаў і 800 руб.), Аноскі (42 асобы і 239 руб.), у Магілёўскай губэрні - маёнтак Валасевічы (52 асобы і 148 руб. даходу) ды інш. Паводле ўказу 1842 г., гэтыя маёнткі павінны былі перайсьці пад кіраўніцтва міністэрства дзяржаўных маёмасьцяў. У 1845 г. Віленская калегія скардзілася міністру ўнутраных справаў Л. Пятрову, што яна знаходзіцца ў цяжкім становішчы, бо ня мае дастатковых сродкаў на ўтрыманьне духавенства, дабрачынных установаў і Слуцкай гімназіі. На ўтрыманьне Віленскай рэфармацкай калегіі было выдаткавана 28.043 руб. І калі супэрінтэндант, напрыклад, атрымліваў на год 308 руб 33 кап., то казнадзей (або міністар, пастар) - 198 руб., а званар - 29 руб. 70 кап. Рэфармацкая царква, гэтак як і лютаранская падпарадкоўвалася Генэральнай эвангелічнай кансысторыі ў Пецярбургу. Справаводства ў ёй напрыканцы XVIII - першай палове XIX стст. вялося на польскай, а ў далейшым на расейскай мове.

Пасьля паўстаньня 1863 г. хваля русіфікацыі, што захліснула беларуска-літоўскія губэрні, зачапіла і рэфармацкую царкву. Улады прапанавалі ўвесьці расейскую мову ў набажэнства там, дзе яно вялося на польскай. У 1869 г. гэтае пытаньне было абмеркаванае на паседжаньні Віленскага эвангелічна-рэфармацкага сынода, які выказаўся супраць гэтага новаўвядзеньня. У абгрунтаваньне свайго адказу сынод указаў наступныя прычыны, якія не дазвалялі пайсці на ўвядзеньне расейскай мовы:

Па-першае, пастары рэфармацкай царквы не валодалі расейскай мовай у дастатковай ступені, каб весьці на ёй набажэнства;

Па-другое, парафіяне гэтай царквы польскага, нямецкага, летувіскага ды інш. паходжаньняў або зусім не разумелі расейскай мовы, або разумелі толькі на побытавым узроўні і "не маглі б з карысьцяй для душы слухаць расейскую казань";

Па-трэцяе, не было ніякіх матэрыялаў для набажэнтсва на расейскай мове (перакладаў Сьвятога Пісьма, псальмаў, гімнаў, малітваў, літургічнага трэбніка, якія б былі ўхваленыя рэфармацкай царквой).

Гэтых пазыцыяў духавенства эвангелічна-рэфармацкай царквы прытрымлівалася і ў далейшыя гады. Калі ў 1873 г. ад іх запатрабавалі пісьмовыя даведкі ў пытаньні ўвядзеньня расейскай мовы ў набажэнства, яны, спасылаючыся на рашэньні сыноду 1869 г., зноў выказалі тыя ж меркаваньні і прычыны. Так, у Гарадзенскай губэрні на той час меліся дзьве рэфармацкія парафіі - Расьненская (Берасьцейскі павет) і Ізебэлінская (Ваўкавыскі павет). У першым набажэнства вялося на нямецкай мове, а ў другім - на польскай. Пастары абодвух прыходаў катэгарычна выказаліся пра немагчымасьць увесьці ў набажэнства расейскую мову.

Даючы адказ віленскаму генэрал-губэрнатару, гарадзенскі губэрнатар у сувязі з гэтым пісаў 28 красавіка 1873 г.: "... адзначаныя пастарамі цяжкасьці, што быццам бы перашкаджаюць увядзеньню расейскай мовы ў рэфармацкае набажэнства, на маю думку, не заслугоўваюць увагі. Мясцовае насельніцтва калі і не зусім добра валодае расейскай мовай, то ўсё ж знаёмае зь ёй і можа без перашкодаў разумець набажэнства і казані на расейскай мове ... Сельскія народныя школы, якія існуюць усюды, дзе сялянскія дзеці навучаюцца толькі расейскай мове, дапамогуць зьліквідаваць гэтыя цяжкасьці". Губэрнатар зазначаў, што пастары, паводле іх даведак, вольна валодаюць расейскай мовай.

Дзеці рэфармаванай шляхты праходзілі навучаньне ў Кейданскай (зачынена ў 1824 г.) і Слуцкай гімназіях. У Слуцкай гімназіі ў 1840 г. іх вучылася 48 чалавек (з 280 агульнай колькасьці), а ў 1860 г. - 58 (з 411 чалавек). 29 жніўня 1850 г. беларускі супэрінтэндант Ванькоўскі на паседжаньні Віленскай рэфармацкай калегіі выказаўся за тое, каб у першыя тры клясы Слуцкай гімназіі дазволілі прымаць вучняў ня толькі шляхоцкага, але і падатковых станаў, каб больш выхаванцаў рэфармацкае царквы маглі набыць неабходныя веды з правілаў сваёй веры.

Напрыканцы XVIII - першай палове XIX стст. рэфармацкі сынод мог накіроўваць вучняў, якія закончылі гімназію, на навучаньне за мяжу: у Бэрлінскі, Франкфурцкі, Марбургскі, Гайдэльбэргскі ўнівэрсітэты ў Нямеччыне, Ляйдэнскі і Франэкэскі - у Галяндыі, Эдынбургскі ў Шатляндыі. Да 1844 г. былі тры стыпэндыі сыноду і ў Кёнігсбэргскім

унівэрсітэце ў Прусах. У далейшым пастарамі былі выпускнікі факультэтаў тэалягічных навук Дэрпцкага й Гэльсынгфорскага ўнівэрсітэтаў.

У другой палове XIX ст. узьнікае яшчэ некалькі плыняў пратэстанцтва. Напрыканцы 1870-х гг. у Гомельскім павеце былі выяўленыя прыхільнікі штундызму. Лічылася, што сюды ён прыйшоў з паўднёвых раёнаў Расейскай імпэрыі, куды жыхары павету выпраўляліся на заробкі. Штундысты верылі ў Ісуса Хрыста і толькі яму аднаму пакланяліся, пастоў не прытрымліваліся, а ў сьвяточныя дні зьбіраліся ў прыватных дамах для сьпяваньня псальмоў і чытаньня Эвангельля. У 1880-ыя штундысты зьявіліся ў Рагачоўскім павеце Магілёўскай губэрні і ў іншых месцах. У 1888 г. яны зьявіліся і ў Віцебскай губэрні. Але перасьледы (3 пасьлядоўнікі штундызму былі пазбаўленыя маёмасьці й сасланыя ў Закаўказьзе, а 2 зьмешчаныя ў вязьніцу) перашкодзілі яго далейшаму распаўсюду. У 1894 г. штундызм быў абвешчаны ў Расейскай імпэрыі па-за законам. Зь цягам часу штундызм практычна перастае існаваць зьлІўшыся з баптызмам.

На тэрыторыі Беларусі акрамя штундызму ўтварылася некалькі плыняў пратэстанцтва: баптызм, эвангелічнае хрысьціянства, пяцідзясятніцтва, адвэнтызм сёмага дня ды інш. У другой палове XIX ст. баптызм зьявіўся спачатку ў Коўні, а потым у Вільні й Горадні. Ён звычайна распаўсюджваўся сярод нямецкіх каляністаў і латышоў, пераважна лютаранаў. Найбольш пашыраным гэтае веравучэньне было сярод сялянаў, у меншай ступені -- сярод месьцічаў.

У большай ці меншай колькасьці баптысты пражывалі ва ўсіх беларускіх губэрнях. Так, на пачатку XX ст. у Віцебскай губэрні баптысты жылі ў Дзьвінскім павеце (136 чалавек), Люцынскім (53 чалавекі), Дрысьненскім (адна сям'я). Гэта былі былыя лютаране, латышы паводле нацыянальнасьці. У Магілёўскай губэрні цэнтрам распаўсюджаньня баптызму зрабілася Гомельшчына. Так, у вёсцы Уць была заснаваная першая грамада, прэсьвітарамі якой былі Каненкаў, Раўзонкаў, Капанкоў, Кірушчанка. У 1879 г. місыянэрамі з паўднёвых губэрняў была заснаваная грамада ў вёсцы Ўсохі. У Менскай губэрні баптысты пражывалі на хутары Хаткі Рэчыцкага павету, у Слуцкім і Пінскім паветах, пазьней зьявілася грамада ў Менску.

Мэтады эвангелізацыі насельніцтва былі разнастайныя: сходы ў тэатрах і шынках, адкрыцьцё нядзельных школаў для дзяцей, правядзеньне для іх розных сьвяточных мерапрыемстваў з раздачай падарункаў, дабрачынная дзейнасьць і г.д.

Царскі ўрад, занепакоены распаўсюджваньнем баптысцкага вучэньня, імкнуўся кантраляваць і рэгуляваць дзейнасьць баптысцкіх грамадаў. У 1879 г. быў выдадзены сэнацкі ўказ, якім рэгулявалася рэлігійнае жыцьцё баптыстаў. Да ўказу дадаваліся часовыя правілы аб вядзеньні мэтрычных запісаў шлюбаў, нараджэньня й сьмерці баптыстаў. Гэтыя запісы павінны былі весьці мясцовыя цывільныя ўлады.

Крыху пазьней за штундызм і баптызм зьяўляецца ў Беларусі і эвангельскае хрысьціянства. У 1882 г. пасьлядоўнікі гэтага вучэньня былі ў Чачэрску Гомельскага павету Магілёўскай губэрні. Да іх ліку належала княгіня Чарткова. У Чачэрскім маёнтку яе бацькі праводзіліся эвангелічныя сходы. Грамада атрымлівала дапамогу з Пецярбургу. Распаўсюджаньне адвэнтыстаў сёмага дня, як і іншых плыняў у Беларусі, пачалося пасьля прыняцьця ўказа 17 красавіка 1905 г. аб верацярпімасьці.

**Артыкул:** *В. Грыгор'евай, А. Філатавай*

# *Блог В. Ю. Ластоўскага*



***Людзьмі трэба звацца!***
***Людзьмі беларускімі!***

— ***Ці можна і ці трэба насіць свае нацыянальныя беларускія адзнакі***?

— Пры бальшавіцкай і польскай уладзе насіць або вывешваць беларускія нацыянальныя адзнакі было забаронена. Кажны беларус павінен свой гэрб "Пагоню", свой бел-чырвона-белы сьцяг ша- наваць. Гэтыя адзнакі павінны красавацца у нашых хатах, школах, урадах, фабрыках і іншых установах. Адзнакі гэтыя мы павінны насіць і ганарыцца імі.

Власт

# *Гістарычны каляндар*

Галоўныя падзеі сакавіка

**1 сакавіка 1581**

- створаны трыбунал Вялікага Княства Літоўскага.

1881 — беларускі тэрарыст Ігнат Грынявіцкі бомбай забіў расейскага цара Аляксандра II.

**1948 нарадзіўся Анатоль Сідарэвіч**

беларускі гісторык, палітоляг

**3 сакавіка 1067**

адбылася бітва на рацэ Нямізе паміж войскам Усяслава Чарадзея і злучанымі дружынамі князёў Кіеўскай Русі. Першая ўзгадка Менску ў крыніцах.

**4 сакавіка1386**

вялікі князь літоўскі Ягайла каранаваны на караля польскага.

**1782 нарадзіўся Казімір Ельскі**

беларускі скульптар, першы прафэсар скульптуры ў Беларусі.

**1949 нарадзіўся Валянтын Собаль**

беларускі археоляг.

**5 сакавіка**

1916 г. пачатак Нарачанскай апэрацыі расейскім войскам.

**1896 нарадзіўся Кандрат Крапіва**

беларускі савецкі пісьменьнік, байкапісец

**1910 нарадзіўся Аўген Калубовіч (Каханоўскі)** беларускі гісторык, палітычны дзеяч, настаўнік

**8 сакавіка**

**1892 нарадзіўся Аляксандр Чарвякоў**

дзяржаўны дзеяч БССР, партыйны дзеяч РКП(б) і КП(б)Б (пам. 16.6.1937).

**9 сакавіка**

**1883 нарадзіўся Францішак Аляхновіч**

беларускі драматург, адзін са стваральнікаў новага нацыянальнага тэатру.

**9 сакавіка 1918** — Выканаўчы Камітэт Рады Ўсебеларускага З'езду прымае Другую Ўстаўную грамату.

**12 сакавіка 1851**

**нарадзіўся Ян Баршчэўскі**

беларускі і польскі літаратар.

**14 сакавіка1499** — кароль і вялікі князь Аляксандар надаў Менску Магдэбурскае права

**1633** — кароль і вялікі князь Уладзіслаў Ваза афіцыйна вызнаў Праваслаўную царкву на тэрыторыі Рэчы Паспалітае.

**1863** — у Горадні на чыгуначным вакзале адбыўся бой паўстанцаў з расейскімі войскамі

**1919** — у Нясвіжы распачалося антыбальшавіцкае паўстанне.

**18 сакавіка у 1918 г.** утварыўся атрад, які стаўся асноваю Беларускага палка — канвойнага падраздзелу ў БССР. Тая дата звязваецца і з Менскам, у якім на той час стаялі немцы і рабілі спробы дзяржаўнага будаўніцтва БНР

**18 сакавіка 1595 г.**

Наваградак атрымаў герб.

**19 сакавіка 1895**

**нарадзіўся Тамаш Грыб**

беларускі палітык, грамадзкі дзяяч.

**1921 нарадзіўся Язэп Юхо**

доктар юрыдычных навук, заснавальнік першай навуковай школы дзяржавы і права Беларусі.

**22 сакавіка 1943 г. разам з жыхарамі спалена Хатынь.**

**22 сакавіка 1609**

нарадзіўся кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1648–1668). Апошні кароль і вялікі князь з дынастыі Вазаў - Ян II Казімір Ваза

**26 сакавіка 1940**

**нарадзіўся Міхаіл Касцюк**

беларускі гісторык, акадэмік Нацыянальнае акадэміі навук Беларусі.

**27 сакавіка 1851**

**нарадзіўся Аляксей Сапуноў**

беларускі гісторык, археограф, краязнавец, дасьледнік помнікаў старажытнай культуры.

**Заснавальнік:** Студэнцкая гістарычная суполка "Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага"
**Галоўны рэдактар:** Дамарад В. А.
**Кантактныя тэлефоны: (029) 732-75-93**
**E-mail:** Recoba20.bel@mail.ru . **Інтэрнэт:** www.amataribelhist.gumshpora.ru
**Наклад:** 50 асобнікаў

# 120 гадоў з дня нараджэння Чарвякова Аляксандра Рыгоравіча (1892 – 1937), дзяржаўнага дзеяча Беларусі

